Пралетарыі усіх краёў, злучайцеся!



Праф. Н. А. ЯНЧУК.

# НАРЫСЫ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ.

## Старадаўны перыяд.

Пад рэдакцыяй Ул. Дзяржынскага.

*(Курс прачытаны ў Маскоўскім Унівэрсытэце).*



БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ
ТАВАРЫСТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ“. МЕНСК, 1923.

Праф. Н. А. ЯНЧУК.

# НАРЫСЫ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРЫ.

## Старадаўны пэрыад.

Пад рэдакцыяй Ул. Дзяржынскага.

(*Курс прачытаны ў Маскоўскім Унівэрсытэце*).

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ
ТАВАРЫСТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ". МЕНСК, 1922.

I.

Пачынаючы аглядзіны беларускага пісьменства, мы найперш павінны заўважыць, што ў гісторыі беларускай кніжнай літаратуры трэба адзначаць два пэрыяды: старадаўны й новы. Мяжою, якая ляжыць паміж імі, трэба лічыць XVIII сталецьце, або лепш яго канец, калі Беларусь была далучана да Расеі.

Другі пэрыяд у свой чарод дзеліцца на новы (30-40 г.г. мінулага сталецьця) і найноўшы, г. зн. сучасны нам пэрыяд.

Нашым задачьнем будзе пазнаёміцца з першым, г. зн. старадаўным пэрыядам.

Пачаткі старадаўнага пэрыяду ў беларускім пісьменстве можна ўжо бачыць у вельмі даўных часох. Поруч з хрысьціянствам у 10 веку на Беларусі паявілася й пісьменства. Першыя кнігі, царкоўнага зьместу, пачалі да нас прывозіцца ад паўдзённых славян; перакладзены яны былі з грэцкае на г. зв. царкоўна-славянскую мову. Але непадоўга магло выстарчыць гэтых прывозных кніг. Новая хрысьціянская рэлігія мацнела й пашыралася, павялічваўся лік яе прыхільнікаў, множыўся стан свайго беларускага хрысьціянскага духавенства, паяўляліся манастыры, а побач з усім гэтым—павялічвалася запатрабаваньне й на царкоўныя кнігі, якія зьяўляліся найбольш пэўнымі, а бадай і адзінымі, скарбніцамі новых хрысьціянскіх праўд. І вось, беларускае духавенства, а нават і сьвецкія кніжныя людзі, пачынаюць перш перапісваць гэтыя кнігі, а з часам і пісаць самабытныя творы духоўнага характару. З гэтага моманту й пачынаецца ўласьціва беларускае пісьменства. Бо хаця і ў далейшым часе прывезеная з поўдня царкоўна-славяншчына пануе ў нашым пісьменстве, то аднак людзі, узгадаваныя на жывой народнай беларускай мове, перапісваючы ці самі творачы, ня могуць устрымацца, каб сям-там не прадраць гэтай царкоўна-славянскай заслоны й не паказаць узросткаў народнай мовы,

якой будзе суджана з часам аканчальна перамагчы царкоўна-славяншчыну, каб самой цалкам запанаваць і закрасавацца ў нашым пісьменстве.

Калі мы возьмем гэткія старадаўныя помнікі нашага пісьменства, як творы слаўнага царкоўнага моўцы Кірылы, біскупа Тураўскага, вядомае «Слова аб палку Ігаравым»,—гэтую высока-мастацкую песьню невядомага аўтара, вандроўку Данілы, ігумена Чарнігаўскага ў св. Зямлю й шмат іншых, то мы ўжо на іх заўважым беларускую ахварбоўку, пабачым асаблівасьці, характэрныя для нашай краіны.

Аднак мы пачнем грунтоўныя аглядзіны беларускага пісьменства толькі ад XV сталецьця, ад таго моманту, калі нацыянальна-беларускі элемэнт у гэтым пісьменстве гэтак закрасаваў, што ён пачынае кідацца ў вочы нават людзям непасьвячоным у таямніцы гістарычна-літаратурнай навукі. Адгэтуль старую беларускую мову пачынаем бачыць і ў духоўных творах, і ў палемічнай літаратуры, і ў розных юрыдычных і дзяржаўных актах.

Рэлігійнае змаганьне на абшарах Беларусі паміж усходняй і заходняй царквамі высунула на чаргу й нацыянальнае пытаньне, і ў гэтай палемічнай літаратуры ўсё мацней і выразьней пачынае паказвацца жывая народная мова, якая аднак ня можа яшчэ перамагчы царкоўна-славяншчыны, а з другога боку— ня можа ўхіліцца й ад паланізмаў і лацінізмаў, якіх шмат уносіла ў кніжную мову лацінска-польская школа.

Беларускі народ мусіў на тры фронты змагацца за сваю веру й нацыянальнасьць з далёка больш дужымі, калі ня лікам, то духоўнымі й культурнымі сродкамі, ворагамі. З аднаго боку, польская палітыка, жадаючы ўтварыць з насяляўшых Рэчпаспалітую народаў моцную «адналітую» дзяржаву, пакіроўвала ўсе свае сілы на тое, каб найбольш многалікая ў гэтым краю беларуская нацыя памагчымасьці шчыльней зьлілася з польскаю на груньце рэлігійных і нацыянальных інтарэсаў. Адгэтуль паўстае канечнасьць апалячыць беларускае насяленьне, якое складала вялізную большасьць у Беларуска-Літоўскім гаспадарстве, пераканаць гэтае насяленьне ў тым, што толькі Польшча ёсьць яго бацькаўшчына. Адначасна з гэтым пашыраецца на Беларусі каталіцтва, або блізкая да яго вунія. Прыгэтым, зразумела, на першае месца выстаўляліся, як больш культурныя, польская й часткай лацінская мовы. З другога боку, новыя навучаньні заходніх рэфарматараў, Лютара, Кальвіна й інш., якія правіклі ўжо ў XVI сталецьці ў Польшчу й Беларусь і знайшлі тут шчырых прыхільнікаў і абаронцаў у асобах некаторых каралёў і князёў,—

зьявіліся новай небясьпекай для праваслаўнай веры на Беларусі, бо да гэтых рэлігій пачалі далучацца знатныя беларуска-літоўскія роды, а за імі йшлі і іншыя станы насяленьня.

Асабліва ўзмоцніўся гэты рэфармацкі рэлігійны рух у часы панаваньня Жыгімонта II Аўгуста, які сам спачуваў навамоднай рэлігіі. Пакуль жыў яшчэ бацька яго, кароль польскі Жыгімонт I, рэфармацыя не выступала гэтак яўна, але ўжо рыхтавался для яе грунт, асабліва на Беларусі. У 1544 г. кароль Жыгімонт I перадаў панаваньне над Беларуска-Літоўскім гаспадарствам свайму сыну каралевічу Жыгімонту-Аўгусту, які й дазволіў вольны доступ рэфармацыі на Беларусь, а пасьля і ў Польшчу, калі па сьмерці свайго бацькі (1548 г.) ён стаў самастойным гаспадаром абедзьвюх частак польскай кароны. У часе яго панаваньня рэлігія й абычайнасьць вельмі занялалі, а гэта яшчэ больш высоўвала на чаргу пытаньне аб царкоўнай рэформе. Малады кароль, можа проста дзеля моды, трымаў рэфармацкіх дзеячоў пры сваім двары і зьбіраў пратэстанцкія творы для сваёй бібліатэкі. Сьлядамі караля йшлі й вяльможы, з ліку якіх асабліва пашыралі новую рэлігію браты Радзівілы—Мікола Чорны, віленскі ваявода й канцлер, і стрыечны яго брат Мікола Рыжы, з сястрою якога, Барбараю, быў паўторна жанаты Жыгімонт-Аўгуст. Першы з іх, атрымаўшы адукацыю заграніцаю, рана пазнаёміўся з навукаю Кальвіна і ў 1553 г. яўна прыняў гэтую рэлігію з усім сваім дваром, завёў у сваім палацы на віленскім прадмесьці Лукішках пратэстанцкую царкоўную службу, а пасьля ў самой Вільні збудаваў камены пратэстанцкі сабор на Бэрнардынскім пляцы. Гэткія-ж сьвятыні ён пабудаваў і ў іншых сваіх мястэчках і гарадох: Несьвіжы, Клецку, Біржах, Бярэсьці і інш. і паназначаў пры іх добра адукаваных пастараў, выкліканых з Польшчы, якім даручыў закладаць пратэстанцкія школы пры сьвятынях. У Несьвіжы ён залажыў друкарню дзеля друкаваньня кальвінскіх кніг; у Бярэсьці яго коштам у 1563 г. была выдрукавана вядомая Радзівілаўская або Бярэсьцейская біблія ў новым перакладзе з гэбрайскае й грэцкае—на польскую мову; пераклад гэты быў зроблены асобнай камісіяй у горадзе Пінчове, адкуль і біблія гэта часта завецца Пінчоўскай. Па прыкладу Радзівілаў ішлі і іншыя знатныя беларускія роды, і гэткім чынам пашыралася й красавала тут эвангялічная навука, якая асабліва была даспадобы шляхоцкаму стану.

Пасярод купецтва, мяшчан і рамесьнікаў пашыралася навука Лютара, бо там было шмат нямецкіх перасяленцаў, а ў суседзтве знаходзіўся Тэўтонскі рыцарскі ордэн, які гэтак-сама прыняў навуку

Лютара ў 1525 г. і меў вялікі ўплыў на Беларуска-Літоўскую краіну. Дзеля пашырэньня новае рэлігіі пасылаліся найлепшыя сілы, вучоныя й красамоўныя пастары, перад якімі праваслаўныя бацюшкі выглядалі яшчэ больш мізэрнымі й не маглі падтрымліваць першынства сваёй царквы, і не маглі ўдачна змагацца за яе незачэпнасьць і быць правадырамі асьветы ў народзе.

А тут, у палове XVI-га сталецьця, зьявіўся новы вораг—сэктанцкае навучаньне, падобнае да арыянства, супроць якога былі нават пратэстанты. Гэта было сацыніянства, празванае гэтак ад апосталаў гэтае навукі італьянцаў—Фаўста й Лелія Сацынаў. Гэтыя сэктанты не лічылі Богам Ісуса Хрыста й адкідалі догмат аб Тройцы, дзеля чаго называліся яшчэ антытрынітарыямі, або унітарыямі (якіх нельга зьмешываць з вуніятамі). Апякуном сацынаў стаўся знатны вяльможа, віленскі кашталян Ян Кішка, да якога належала 40 гарадоў і каля 700 маёнткаў. Як і Мікола Радзівіл Чорны, апякун пратэстантаў, ён не шкадаваў сродкаў на ўтрыманьне апосталаў і пашыральнікаў сацыніянскае рэлігіі, на закладаньне друкарняў і друкаваньне сацыніянскіх кніг у сваіх маёнтках. На барацьбу з новым ворагам выступілі ня толькі каталікі й праваслаўныя, але й пратэстанты з Міколай Радзівілам Чорным на чале. Аднак сацыніянства не пераставала пашырацца, захопліваючы сабою шмат кальвіністаў і праваслаўных. Нават самі правадыры пратэстантызму, выпісаныя Радзівілам, схіліліся на бок сацыніянства, у тым ліку такія асобы, як Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, імёны якіх павінны быць запісаны ў летапісу беларускага пісьменства, і на якіх нам прыдзецца затрымацца даўжэй.

Вышэйапісаныя зьявы выразна паказваюць, у якім стане знаходзілася духоўнае жыцьцё на Беларусі ў XVI сталецьці. Прасьвячоныя прыхільнікі старога разумелі, што найлепшым сродкам у змаганьні з руйнуючымі старое ўплывамі, павінна быць духоўная асьвета народу. Побач з гэтым пачалі пераконывацца, што слова Божае й рэлігійную навуку трэба падаваць народу на найлепш зразумелай для яго народнай мове. І вось, у часе найбольшых рэлігійных спрэчак, у XVI сталецьці, на Беларусі мы бачым рад паважных спробаў перакласьці сьвятыя кнігі на тагочасную беларускую народную мову; побач з гэтым паяўляюцца напісаныя на гэтай-жа мове творы, як абаронцаў праваслаўнае веры, тэтак і іх праціўнікаў. З гэтага боку, тагочасныя царкоўныя кнігі й палемічныя духоўныя творы зьяўляюцца цікавымі й для гісторыка літаратуры, бо ў іх пачала прабівацца жывая народная крыніца, якая пазьней сталася жыватворнай для адраджэньня беларускага нацыянальнага пісьменства.

Першыя перакладчыкі сьвятога пісьма на мясцовую беларускую мову бралі прыклад з палякаў і часта нават клалі ў аснову сваей працы польскі пераклад. А ў Польшчы ўжо даўно меліся пераклады на польскай мове, калі ня ўсёй бібліі, то прынамсь паасобных яе кніг; паміж гэтых кніг найбольш была папулярнай, як і ў нас, псалтыр, вядомая на польскай мове ўжо ў XVI в. (Флёрыянская) і ў XV в. (Пулаўская); а ў гэтым-жа XV сталецьці ў каралевы Зофіі, 4-ай жонкі Уладыслава Ягайлы, маткі Казіміра Вялікага, была ўжо і ўся біблія на польскай мове, якая захавалася ў няпоўным складзе часткай у рэфармацкай калегіі у *Шораш-Потацку* (у Вэнгрыі, адкуль і яе назова: Біблія Зофіі або Шорашпотацкая, у 1445 г.), а часткай захавалася ў Урацлаўскай гарадзкой бібліатэцы. У XVI сталецьці асабліва шмат паявілася рукапісных перакладаў, а пасьля й друкаваных выданьняў—бібліі і іншых сьвятых кніг на польскай мове, дзякуючы вышэйазначанаму рэлігійнаму руху. У рэлігійных спрэчках і адзін і другі бок карыстаўся сьв. пісьмом, каб давесьці сваю праўду, і перакладчыкі бібліі дапісвалі на палёх і пад загалоўкамі свае ўвагі й тлумачэньні; у гэтых допісах і тлумачэньнях яны праводзілі свае погляды, як гэта мы асабліва бачым у пратэстанцкіх бібліях таго часу.

---

II.

Паміж дзеячамі старадаўнага пэрыяду беларускага пісьменства першае па часу месца займае вядомы выдавец духоўных кніг на беларускай мове—Францішак Скарына, «дохтар лекарскіх навук», як ён сам сябе называе. Ён радзіўся, мабыць,у канцы XV сталецьця й памёр каля палавіны XVI-га. Родам быў Скарына беларусін з Полацку, здаецца з шляхоцкага стану, бо меў свой гэрб, хаця яго сваякі належалі да купецкага й мяшчанскага стану. Скарына меў даволі багатую ўласнасьць, якая яшчэ павялічылася, калі ён жаніўся з віленчанкаю, якая мела ў Вільні ўласны дом. Згодна з тым звычаем, які быў у той час паміж багатых і заможных станаў на Беларусі, Скарына пакіраваўся заграніцу, каб атрымаць там вышэйшую адукацыю, і каля 1504 г. паступіў у Кракаўскі ўнівэрсытэт. Тут Скарына атрымаў, здаецца, дохтарскую годнасьць і каля 1506 г. пакінуў Кракаў. Дакладных вестак аб яго жыцьці дагэтуль знойдзена вельмі мала, аднак штоколечы можна прасачыць у прадмовах да яго выданьняў. У 1517 г. мы бачым Скарыну ў Празе Чэскай у веку каля 27 год. Працуе ён там над выданьнем кніг для сваіх братоў-беларусінаў. У гэтай сваёй працы Скарына кіруецца гэткімі матывамі: „Понеже отъ прироженія звѣри, ходящіе въ пустыни, знають ямы своя; птицы—летающіе по воздуху, вѣдають гнѣзда своя, рыбы, плывающіе по морю и во рѣкахъ, чують вири своя, пчелы и тымъ подобная боронять ульевъ своихъ,—такожъ и люди, и где зродилися и ускормлены суть по Бозѣ, къ тому мѣсту великую ласку имають». Але гэтая «ласка», гэтае каханьне бацькаўшчыны павінны быць чыннымі. Малая заслуга нарадзіцца ў тэй ці іншай краіне. «Не толико сами собѣ народжвомся на свѣтъ, но болѣе ко службѣ Божіей и посполитого доброго». Вось гэтае «паспалітае дабро» Скарына й паставіў галоўным заданьнем сваёй выдавецкай працы. А дзеля таго, што ён, як сам аб сабе кажа: «Нарожены въ рускомъ языку», то й зразумела, што сваю працу ён пакіроўваў на карысьць „своей братіи Русі, найболѣе съ тое причины, иже мя ми-

лостивый Богъ съ того языка на свѣтъ пустилъ». Ня маючы на ўвазе ніякіх рэлігійна-палемічных мэтаў, як гэта рабілі яго наступнікі (Будны, Цяпінскі і інш.), Скарына, пачынаючы ад 1517 г. і канчаючы 1519 годам, выпускае ў Празе адну за другой кнігі Старога Завету невялікімі выпускамі, у малую чвэрць, выгодными для карыстаньня; а каб лягчэй было іх разумець, ён выправіў царкоўна-славяншчыну, выкідаючы з яе вельмі застарэлыя словы і ўводзячы элемэнты жывой гутаркі. Агульны загаловак для ўсіх выданых ім біблейскіх кніг гэткі: «Біблія Руська, выложена докторомъ Франциском Скориною изъ славного града Полоцька, Богу ко чти и людемъ посполитымъ къ доброму наученію». Але выданьне вялося не адразу; паасобку выходзілі Псалтыр, кнігі Давіда, Іова, прыповесьці Салямона, Прамудрасьць Ісуса Сірахава й г. д., канчачы прарокам Даніілай. З 24-х кніг Старога Завету дагэтуль вядома ў выданьні Скарыны толькі 22; ці былі выдрукаваны і іншыя, гэтае пытаньне дагэтуль не разьвязана. Як-бы просячы выбачэньня ў чытачоў, што ён ня можа даць больш поўнага й багатага выданьня, Скарына піша: «мы братія, не можемъ ли во великихъ послужити посполитому люду рускою языка, сіе малые книжки праци нашое приносимо имъ».

Гэтая праца мела на ўвазе перш за ўсё народную асьвету. Вось чаму першаю кніжкаю ў ліку пражскіх выданьняў Скарыны зьявілася ў 1517 г. Псалтыр, па якой, як ведама, вучыліся граматы; з гэтай-жа прычыны спробы перакласьць Псалтыр на беларускую мову пачаліся яшчэ ў XV сталецьці, калі не раней.[1])

У прадмове да Псалтыры Скарына й прызначае сваё выданьне «дѣтемъ малымъ», як «початокъ всякое доброе науки, грамоты, еже добре чести и мовить учить». Сьледам за Псалтырай пачалі выходзіць і іншыя кнігі Старога Завету, зноў асобнымі выданьнямі, крыху большага фармату; усе яны з прадмовамі на тагочаснай беларускай мове.

Псалтыр, як падручнік да славянскае граматы, Скарына выдрукаваў на славянскай мове. Жадаючы аднак, каб народ лепш мог разумець яго выданьні, Скарына выкідае з гэтай царкоўна-славянскай мовы словы, якіх няма ў жывой народнай мове, і ўводзіць народныя словы, асабліва ў тлумачэньнях на палёх, аб чым ён гэтак піша: «Положилъ есми на бoцѣхъ нѣкоторыи слова для людей простыхъ русскимъ языкомъ, что которое слово знаменуеть».

1) Гл. выведы акад. Е. Ф. Карскага: „Западно-русскіе переводы Псалтыри въ XV-XVIII вѣкахъ“ Варшава, 1896 г.

Затое ўсе іншыя выданыя Скарынаю ў Праве кнігі Ст. Завету, як ён сам кажа, былі ім «выложены на рускій языкъ», г. зн. перакладзены на тагочасную беларускую мову. Мэта іх выданьня замыкаецца галоўным чынам у тым, каб зрабіць іх даступнымі для магчыма большага ліку «своей братіи рускихъ», каб даць ім духоўную літаратуру. Але гэта ня ўсё. Погляд Скарыны на значэньне кніг сьвятога пісьма ня толькі царкоўны. Ён шукае ў іх ня толькі боскай, але й жыцьцёвай мудрасьці. Гэтак, напрыклад, у прадмове да кнігі «Премудрости Ісуса сына Сирахова», Скарына кажа: «Елико кратъ въ ней будеши чести, по кажномъ чтеніи нового нѣчто научишся, чего жь есь предъ тымъ не умѣлъ. Вся бо Соломонова и Арестотелева, божественная и житейская мудрость въ сей книзѣ краткими словы замкнена естъ. Прото жъ и я для похвалы Божіей и для посполитого доброго и размноженія мудрости, умѣнія, опатрености, разуму и науки прилозилъ есмъ працу выложити книгу сію на рускій языкъ». Сьвятыя кнігі, як тлумачыць Скарына,—«пожитэчны суть всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣй тымъ они же хотятъ имѣти добрые обычае и познати мудрость и науку». Трэба толькі патрапіць знайсьці гэтую мудрасьць і навуку, тым больш, што яна часта бывае захована ў «причтахъ», якія «иными словы всегда иную мудрость и науку знаменують, а иначей ся разумѣють, нежели молвены бывають, и больши во собе сокрытых таинъ замыкають, нежели ся словами пишуть. Естъ бо въ сихъ причтахъ сокрыта мудрость, якобы моць въ драгомъ камени, и яко злато въ земли, и ядро въ орѣху. Кто ю знайдеть, сей знайде милость и достанеть благословенія отъ Господа. И пріидетъ къ нему все доброе посполу съ нею: Хвала и честь безчисленая моцію ся».

Кажучы аб навуцы, Скарына разрожнівае навуку боскую й навукі сьвецкія, якія ў свой чарод дзеліць на практычныя й адцягвеныя (абстрактныя). Да ліку першых ён залічае прыродазнаўства. Скарына адзначае, што кніга важнасьць якога даводзіць сьв. пісьмом. Скарына адзначае, што кніга прыповесьцяў Саламонавых зьмяшчае «размолвеніе о природженіи древъ и былинъ, звѣрей, птиць, гадовъ и рыбъ». Значыцца вельми ёсьць карысна чытаць гэтую кнігу. Кіруючыся гэткім поглядам, ён карыстаецца кожным здарэньнем, каб у сваіх тлумачэньнях даць пакарыстаць магчымасьці больш гэткіх пазнаньняў, напр.—гістарычных, геаграфічных і інш. Гэтак, успамінаючы аб краінах Ханаанскай і Іудэйскай, Скарына дае геаграфічнае апісаньне Зямлі Абяцанай. Кнігу Юдыфь ён пачынае кароткім нарысам на простай беларускай мове аб царствах старавечнага ўсходу: Асырыйскім, Мідыйскім і Пэрсыдзкім.

Навукі адцягненыя (абстрактныя) Скарына называе «вызволенымі» (artes liberales), якіх налічвае сем, і ўсе яны бяруць свой пачатак у біблії: «Ту наученіе седьми наукъ вызволеных достаточное». Першая з іх — навука «граматика или поруски говорячи грамота»; дзеля яе навучэньня, як вышэй ужо казалася, павінна служыць Псалтыр. Дзеля навучэньня «лоіки, она же учить з доводомъ разознати правду отъ кривды, чти книгу Іова, или посланія Апостола Павла». Кніга Іова асабліва карысна, і «всякому человѣку потребна чести, понеже есть зерцало житія нашего, лекарство душевное, потѣха всѣмъ смутнымъ, наболѣй тымъ, они же суть въ бѣдахъ и въ немоцахъ положены. Прото жъ я, Францишекъ Скорининъ сынъ з Полоцка, въ лекарскихъ наукахъ докторъ, знаючи сее, иже есть найвышшая мудрость размышленіе смерти, и познаніе самого себе, и въспоминаніе на прійдущіе речи, казалъ есми тиснути книгу сію». Далей: «Аще ли же помыслиши умѣти риторику, еже есть красномовность, чти книги Соломонавы. А то суть три науки словесные» — (г. зн. граматыка, лёгіка, рыторыка). Дзеля навучэньня «музыки, то есть пѣвницы», прыгодна ўся Біблія: «премножество стиховъ и пѣсней светыхъ по всей книзѣ сей знайдеши», а асабліва ў Псалтыры й Песьні-Песьняў. — «Любо ли ти есть умѣти аритметику, еже вократцѣ а неомылне личить вучить, четвертьи книги Моисеевы часто чти», — бо яны зьмяшчаюць лік кален іудэйскіх. — «Пак[1]) ли же имаши предъ очима науку геометрію, еже по-руски сказуется землемѣреніе, чти книги Ісуса Наувина», — дзе кажацца аб падзеле Зямлі Абяцанай паміж жыдоўскімі каленамі. — «Есть ли астрономіи, или звѣздочети, — найдешъ на початку книги сее (біблії) о сотвореніи солнца и мѣсеца, и звѣздъ; найдешъ во Ісусѣ Наувинѣ, яко стояло солнце на единомъ мѣстѣ за цѣлый день. Знайдешъ во книгахъ Царствъ, иже солнце поступило неколико ступневъ. Знайдешъ во светомъ Евангеліи о новосотвореной звѣздѣ часу нароженія нашего Спасителя Ісуса Христа». Быццам баючыся паказацца абскурантам (цёмным чалавекам), які ўсе навукі ўпіхае ў рамкі біблії, — аўтар робіць гэткую агаворку: «Болѣе воистину чудитися превеликой Божіей моци мусишъ, нижли учитися». І кончыць гэтую частку словамі: «А то суть седьмъ наукъ вызволеныхъ».

Гэтае паняцьце аб „семи наукахъ вызволеныхъ", бадай-што, ўпяршыню было апавешчана Скарынаю на пачатку XVI сталецьця ўсім усходня-славянскім пляменьням. Некаторыя з гэтых навук, асабліва першыя тры, у наступным сталецьці сталіся падвалінамі школь-

1) Зноў, лічэ, з другога боку.

най схолястычнай паўдзённа-заходняй адукаванасьці на Беларусі. Але апрача вызваленых навук, біблія, як здаецца Скарыне, карысна й для тых, хто жадае пазнаёміцца з «законами и правы, ими же люде на земли справоватися имають».—«Ту справа всякого собранія людского и всякого града, еже вѣрою, соединеніем ласки и згодою посполитое доброе помножено бываеть». Мы ўжо бачым, як гэты кліч да згоды і еднасьці пярэчыў тагочасным спрэчкам і нязгодзе. Нарэшце біблію можна разглядаць з гістарычнага погляду: «Аще ли же коханіе имаши вѣдати о военныхъ а о богатырскихъ дѣлехъ, чти книги Судей или книги Махавеевъ; болѣе и справедливѣе въ нихъ знайдешъ, нежели во Александріи[1]) или во Трои[2]). Пакъ ли же вократцѣ свѣдати хощеши много тысещей лѣтъ лѣтописепь, чти книги Параломенона». Гэтыя гістарычна-літаратурныя ўвагі ў вуснах беларускага кніжніка вельмі цікавы, бо дзякуючы ім выяўляюцца вядомыя літаратурныя традыцыі і ўплывы. Палачанін, які цалкам аддаўся духоўнаму пісьменству на пачатку XVI сталецьця, гаворыць аб «богатырскихъ дѣлехъ», як аб нечымсь агульнавядомым тагочаснаму беларускаму грамадзянству; успамін яго аб «Александріи» і «Троянскихъ дѣяніяхъ»—сьведчыць, што й гэтыя апошнія былі ўсім добра вядомы. З гэтага відаць, як бязгрунтоўным ёсьць погляд, быццам Беларусь ніколі ня ведала багатырскага эпасу, і быццам сьляды яго, якія спатыкаюцца ў беларускіх казках, занесены сюды з чужацкай нівы, а не зьяўляюцца довадам традыцыяў народнага эпасу.[3]) З другога боку, успамін аб сярэднявечных заходня-эўрапэйскіх рыцарскіх аповесьцях сьведчыць, што яны былі вельмі папулярнымі на Беларусі ў старадаўны парыад нашага пісьменства, і вызначае шлях, па якім яны прышлі ў Маскоўшчыну праз Чэхію, Польшчу й Беларусь. Аб гэтым кажуць і іншыя факты. Гэтак, напрыклад, у прыватнай бібліатэцы гр. Рачынскага ў Пазнані знайшоўся беларускі рукапісны зборнік XV сталецьця, у якім зьмешчана аповесьць з сярэдніх вякоў аб Атыльле, рыцарская аповесьць аб Трыстане й «літоўскія», ці справядлівей, беларускія летапісы, аб якіх успамінае Скарына, калі ён гаворыць аб біблейскіх гістарычных кнігах.

---

1) „Александрія“—сярэднявечная фантастычная аповесьць аб Аляксандры Македонскім.

2) „Троянскія дѣянія“—сярэднявечная аповесьць аб Траянскай вайне.

3) Гл. Е. Ф. Карскага—„Слѣды бѣлорусского эпоса въ бѣлор. народн. поэзіи“ (Отціск з „Zbornika“ ў чесьць славіста Ў. Ягіча, выд. у Бэрліне 1908 г.). А. М. Лабады: „Бѣлорусская народная поэзія и русскій былевой эпосъ“—у журнале „Этнографическое обозрѣніе“, кн. XXV, 1895 г. (Масква).

Будзе мо' здавацца дзіўным, калі мы скажам, што Скарына ў сваіх стара-заветных выданьнях часамі выкладаў свае думкі ў віршаванай форме. А тымчасам, як чалавек з вялікім літаратурным нахілам, ён не хацеў сабе адмовіць і ў гэтай прыемнасьці, хаця ўзораў тагочаснай беларускай літаратуры ён бадай-што зусім яшчэ ня меў. Напрыклад, у кнізе Іова ён уставіў, як дадатак, гэткі чатырохрадковы верш:

«Богу въ Тройци единому ко чти и ко славѣ,
Матери его Пречистой Марiи къ похвалѣ,
Всѣмъ небеснымъ силамъ и светымъ его къ веселiю,
Людемъ посполитымъ къ доброму наученiю».

У кнізе Эсьфір, успамінаючы аб вядомай гісторыі Эсьфіры й Мардахея з Аманам, Скарына ў віршаванай форме высказвае гэткую думку, якая напамінае народныя пагаворкі:

«Не копай подъ другомъ своимъ ямы —
самъ ввалишся въ ню:
Не ставъ, Амане, Мордохею шыбеницы
самъ повиснешъ на ней».

А ў кнізе „Усход", дзе гаворыцца аб законадаўчасьці Маісея, Скарына выкладае вершамі дзесяць запаведзяў:

«Вѣруй въ Бога единого
А не бери надармо имени его.
Помни дни светые светити
Отца и матку чтити.
Не забывай ни едина,
И не дѣлай грѣху блудна.
Не вкради что дружнего
А не давай свѣдецтва лжива.
Не пожедай жены ближнего,
Ни имѣнiя или речи его».

Гэтыя раньнія спробы віршаваньня вельмі напамінаюць нам тыя многалікія духоўныя канты й псальмы, напалову народнага паходжаньня, якія ў сівой мінуўшчыне былі гэтак папулярны й засталіся гэткімі й да сёньнешняга дня паміж беларускім народам. У свой час вуніяцкія манахі—базыліяне, сабралі гэтыя вершы й, далучыўшы да іх свае ўласныя, выдалі з нотамі пад загалоўкам: «Богогласникъ». Кніжкі гэтага «Богогласника», у пачаеўскім выданьні 1825 г., часамі можна было спаткаць на Беларусі яшчэ 25 год таму назад.

Складаньне вершаў асабліва пашыралася ў XVII сталецьці на Беларусі і Украіне, дзе над ім практыкаваліся ў школах, праходзячы курс «піітыкі» (навука аб складаньні вершаў). Гэты звычай быў запазычаны з Польшчы з іезуіцкіх школ.

Гэтак шырока разьвінуў дохтар Скарына сваю літаратурную й выдавецкую працу за якіх-колечы 2-3 гады свайго прабываньня ў Празе. Матар'яльнае падтрыманьне для свае выдавецкае працы ён адтрымліваў паміж іншым з Вільні. Напрыклад, на адным экзэмпляры першай кнігі яго выданьня, Псалтыры 1517 г., ёсьць прыпіска: «а то ся стало накладомъ Богдана Онькова сына, радцы мѣста Виленьского». Гэткія-ж прыпіскі спатыкаюцца і ў іншых кніжках яго выданьняў.

Пачынаючы ад 1525 году, дохтар Скарына стаў сталым жыхаром Вільні, але ня спыніў свае выдавецкае працы, гэтак удала распачатай у Празе. Ён знайшоў у Вільні «христолюбцевъ»—апякуноў кніжнае справы ў асобах вышэйпамянёнага Богдана Онькова й Якуба Бабіча. Як сам Скарына сьведчыць,[1]) ён завёў у Вільні друкарню «въ дому почтивого мужа Якуба Бабича, найстаршего бурмистра славного и великого мѣста Виленского». Тут ён распачаў выданьне кніг Новага Завету, але пасьпеў надрукаваць толькі «Апостала 1525 г.» і выпусьціў гэтак званую «Малую подорожную книжицу», дзе зьмяшчаліся і псальмы, і акафісты, і дробныя службы. Апрача гэтага некаторыя кнігі засталіся пасьля Скарыны ў рукапісах, нарыхтованыя да друку. Варункі складаліся для яго ў Вільні ўсё горш і горш. Пачалася судовая валакіта за маентнасьць са сваякамі, якая закончылася канфіскацыяй яго уласнасьці; у дадатак да гэтага, страшэнны пажар Вільні ў 1530 г., у часе якога згарэла $^2/_3$ гораду, зьнішчыў і друкарню Скарыны: згарэлі й яго выданьні. Зруйнаваны гэткім чынам выдавец і сейбіт народнае асьветы на Беларусі зыходзіць са сцэны зусім забыты. Толькі праз 2-3 сталецьці пазьней была, як належыць, ацэнена яго асьветная праца, як пачынальніка кніжнае справы на Беларусі. Плёнам гэтай працы карысталіся і іншыя суседнія краіны—Валынь, Падолія, Галіччына, Украіна, Вэнгрыя, Чэхія, Румынія й нават сама Масковшчына. У канцы XVI ст., часткай пры дапамозе ўцёкшых з Масквы друкароў, друкаваньне кніг зноў распачалося ў Вільні й шырока разьвінулася ў руках практычных і багатых братоў Мамонічаў, якія праславілі сваімі выданьнямі ня толькі на Беларусі, але й заграніцай. Але гэта было чыста гандлёвае прац-

---

[1]) У канцы выданага ім у Вільні «Апостала».

прыемства, далёкае ад ідэёвых імкненьняў Скарыны. У гісторыі беларускай літаратуры і мовы іх выданьні ня маюць асаблівага значэньня, бо яны ня ўносілі з сабою нічога новага.

Беларусь павінна гардзіцца імем свайго сына Скарыны, як аднаго з найбольш раньніх працаўнікоў, які ахвяраваў усё сваё жыцьцё на справу асьветы народу. Доктар Скарына сваімі выданьнямі ўліваў сьвежы струмень у царкоўнае жыцьцё; ён дапамагаў разьвіцьцю сьвядомых адносін да царкоўных кніжак і да рэлігіі; а што для нас найважней, так гэта тое, што Скарына першы даў у рукі народу зразумелую літаратуру й прабуджаў у гэтым народзе замілаваньне да асьветы й да роднага слова.

---

## III

Літаратурная чыннасьць Скарыны абнімае сабою, як мы ўжо бачылі, першую чвэрць XVI-га сталецьця. Вось чаму яна яшчэ не пранікнулася тым асаблівым рэлігійна-палемічным духам і сваркаю, якімі адзначаецца ўся наша беларуская літаратура, пачынаючы ад паловы гэтага-ж сталецьця. Пісьменьнікі гэтага пазьнейшага пэрыяду трацілі ўсе свае літаратурныя таленты на спрэчкі й перасуды аб такіх спэцыяльных, а падчас нават дробных, рэлігійных пытаньнях, дзякуючы якім яны забывалі больш шырокія заданьні. Рэдка хто з іх цікавіўся агульнымі культурна-асьветнымі справамі, нацыянальнымі ідэаламі й грамадзянскім будаўніцтвам. Нясумленнасьць, ненавісьць, падбухторваньне адной вацы на другую, часта грубая прагавітасьць, пустая слава і іншыя падобныя адзнакі ў гэтых пісьменьнікаў-палемістаў зусім ня вабяць сучаснага чытача знаёміцца й цікавіцца гэтай літаратурай; апрача гэтага, і з павярхоўнае стараны гэтыя пісьменьнікі, ужываючы схолястычна-школьную багаслоўную мову, мала дапамагалі дзеля разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы. Аднак і ў гэтым пэрыядзе знойдзецца двох-трох прадстаўнікаў тагочаснай літаратуры на Беларусі, якія выявілі свае гуманныя й шчыранародныя імкненьні. З паміж іх зварочвае на сябе нашу ўвагу Сымон Будны, палацінску Budnzeus, і яго галоўнае выданьне, гэтак званая Несьвіжская Польская Біблія 1572 г.[1]) Уроджаны на Беларусі, паводле адных вестак мазур, паводле другіх—беларусін, Будны адтрымаў адукацыю ў Кракаўскай Акадэміі, дзеля чаго добра ведаў як польскую, гэтак і беларускую мовы й зусім лёгка пісаў на гэтых мовах. Апрача гэтага ён ведаў чэскую й лацінскую мовы, здаецца, італьянскую, а гэтак сама грэцкую й гэбрайскую. Князь Мікола Радзівіл-Чорны, апякун кальвіністаў, назначыў Буднага пастарам у адным са сваіх мястэчак—Клецку, ля Менску, разам з Сакалоўскім (Faleonius), які папаўся ў вастрог, як гарэтык.

---

1) Ёсьць думка, што Новы Завет быў выданы Будным яшчэ ў 1570 г., але нікому з бібліографаў гэтае выданьне не патраплялася.

Але з часам Будны пачаў схіляцца ў бок сацыніянства, а дзеля гэтага павінен быў пакінуць старое месца й шукаць прытулку і апекі ў заступніка сацыніянаў, багатага вяльможы Яна Кішкі ў мястэчку Лоску.

Будны вельмі тужыў аб народзе, які заставаўся ў цемры вязнаньня, і абычайнасьць якога была ў поўным запяпадзе. З гэтае прычыны ён пастанавіў даць тагочаснаму грамадзянству для шырокага карыстаньня, біблію на польскай мове, танейшую коштам і выгаднейшую фарматам, чымсь ранейшыя, як напр. раскошна выданая ў 1563 г. ў Бярэсьці Радзівілаўская, якая паўторна пасьля была надрукавана ў лепшым выданьні ў Несьвіжы. Нездаволены ранейшымі перакладамі біблії, Будны пастанавіў для свайго выданьня зрабіць новы пераклад і ўзбагаціў выданьне абшырнаю прадмоваю, рознымі прыпіскамі ў пратэстанцкім духу, не эдмаўляючыся гэткім чынам і ад прапаганды.

Для беларускага-ж насяленьня Будны пераклаў яшчэ раней на беларускую мову лютаранскі «Катахізіс» і выдаў яго ў 1562 г. ў Несьвіжы (Слуцк. п., Менск. губ.); у гэтай працы яму дапамагалі несьвіжскі староста—Мацей Кавячынскі, які даваў грошы на выданьне, і Лаўрым Крышкоўскі, як перакладчык. Апрача гэтага Будны ў гэтым-жа року выдаў у Несьвіжы свой арыгінальны твор на беларускай мове „О оправданіи грѣшника предъ Богомъ", які да гэтага часу, бадай-што нідзе, не захаваўся. Праз нейкі час пачалі выходзіць адзін за другім іншыя творы Буднага палемічна-рэлігійнага й духоўна-моральнага зьместу на польскай і лацінскай мовах, напісаныя прозаю й вершамі й друкаваныя ў Несьвіжы, Лоску, Бярэсьці. Наогул гэта быў выдатны літаратурны дзеяч другой паловы XVI в., жвавы й дасьціпны пісьменьнік і адзін з найбольш вядомых прыхільнікаў і апосталаў перш пратэстантызму, а пасьля сацыніянства.

З ідэямі антытрынітарызму (г. зн. процiў Тройцы), якія пашыраў Соцын у другой палове XVI в. ў Польшчы й Беларусі, Будны пазнаёміўся ад вядомага багаслова—філёзафа й мэдыка (вынайшаў закон курсаваньня крыві) Міх. Сэрвэта, які доўгі час пражываў у Вене, а пад канец свайго жыцьця распачаў рэлігійную спрэчку з Кальвінам; скуткам гэтай спрэчкі было тое, што Сэрвэт быў публічна спалены у Жанэве ў 1553 г. за свае погляды.

Аднак Буднага нельга лічыць фанатыкам; як кажа аб ім адзін з сучасьнікаў, Будны ня думаў прымаць вянка мучаніка за свае пераконаньні. Сучасьнікі апавядаюць аб гэткім здарэньні: калі Будны аднойчы папаўся ў рукі польскіх салдат-католікаў, якія варочаліся з маскоўскага паходу, і калі яго сталі вінаваціць у здрадзе веры й вымагаць, каб ён перастаў змагацца з каталіцкай верай, то Будны па-

кляўся, што ня толькі споўніць іх вымаганьне, але нават сам будзе дапамагаць езуітам у справе іх прапаганды. Магчыма, што ў зьвязку з гэтым здарэньнем пратэстанты на сваіх брацкіх сходах пачалі адлучаць Буднага ад сваіх брацтваў. Аб апошніх гадох яго жыцьця й аб сьмерці дакладных вестак зусім няма.

Нас мала цікавіць пытаньне аб рэлігійных перакананьнях Буднага, а важны той факт, што ён адзін з першых, шляхам за Скарынаю, адважыўся ўжываць мясцовую беларускую мову ў кнігах, якія мелі адносіны да рэлігіі; а апрача гэтага, нават у сваім польскім перакладзе біблії, як сам адзначае ў прадмове да яе, Будны часта ўжывае беларускія словы нараўне са словамі розных мясцовых польскіх гаворак: кракоўскай, мазавецкай, падляскай, сандамірскай,—бо як ён кажа: głupstwo to jest mową jednej krainy gardzić, a drugiej słówka pod niebiosa wynosić (прадм. да Біблії).

У гісторыі беларускага пісьменства гэты факт, у кожным выпадку, вельмі важны, незалежна ад таго, як бы мы не глядзелі на самы характар гэтае беларускае мовы і як бы мы не ўважалі яе за мову кніжную, штучную.

Каб бліжэй пазнаёміцца з гэтаю моваю на духоўных і палемічных творах і перакладах Буднага, выданых у другой палавіне XVI-га сталецьця, мы падамо тут некаторыя выпіскі з гэтых вельмі рэдкіх твораў Буднага. Пачнем з катахізісу 1562 г. Поўны загаловак яго гэткі: «Катихисисъ, то есть наука старадавная христіанская отъ светого писма для простыхъ людей языка Руского[1]) въ пытаніяхъ и отказѣхъ събрана». А ў другім загалоўку перад тэкстам сказана: «Катихисисъ для дѣтокъ христіанскихъ языка Руского, коротко выложена[2])». У пасьляслоўі падаецца месца й час выданьня.—„Доконана есть сія книга, зовемая греческимъ языкомъ Катихисисъ, а пословеньски оглашеніе, Богу ко чти и посполитымъ людемъ языка Руского къ показанью и доброму наученью, накладомъ боголюбивыхъ мужей, пана Матѳія Кавечиньскага, наместьника Несьвижского, Симона Будного, Лавърентія Крышковъского, на городѣ Несьвіжскомъ, подъ лѣты отъ воплощеніа Спасова тисеча пятнсотъ шестьдесятъ второго, месеца Іюня десятого дня“—(251 ліст малой 4-кі)[3]). Пад прадмоваю за гэткай-жа датаю значыцца: «Писанъ у Клецку»,—як відаць, у пэрыяд, калі аўтар прабываў там, як пастар мясцовай кальвінскай грамады.

1) Г. зн. плямень ня.
2) Па грэцку слова «катихисисъ» жаноцкага роду.
3) У экзэмпляры Маскоўскага Румянцаўскага музэю, якім мы карысталіся, спачатку кнігі не захавалася двох лістоў, а ў канцы—трох лістоў.

Цяпер мы бачым, што мэтай выданьня ёсьць—даць эвангельле новай веры простаму люду Беларусі. У гэтым яшчэ больш нас пераконвае, як „Предѣсловіе“ да кніжкі, гэтак і некаторыя яе разьдзелы, дзе развяжаюцца гэткія пытаньні, як хрышчэньне, пакланеньне абразом і інш., з чыста пратэстанцкага погляду. Але для нас куды важней другая мэта выданьня, аб якой Будны ўспамінае ў пасьвячэньні да кнігі. Пасьвячаючы сваё выданьне: «ихъ княжацскимъ милостямъ»—Радзівілам, Будны тлумачыць, што ён гэта робіць дзеля таго «абы ся вашп княжацскіе милости не только въ чужоземскихъ языцѣхъ кохали, але бы ся тежь ваши княжацскіе милости и того здавна славного языка словенского розмиловати и онымъ ся бавити рачили. Слушная бо речь есть, абы ваши княжацскіе милости, въ которомъ давъные милости славне преднѣйшіе преложеньства[1]) несуть... Ботъ се вашим княжацскімъ милостям, яко се вышей доложило, тотъ переводный въ томъ языку плодъ[2]) только для самого того ошяровалъ, абысте ваши княжацскіе милости, зацного стану княжата, а передънѣйшихъ вожовъ сынове, всимъ иншимъ съ себе добрый взоръ а прикладъ давати рачили, ижь бы ся много иншихъ прикладами вашихъ княжацскихъ милости будовати могли, а тая отчизна и речъ посполитая зъ вашихъ княжацскихъ милости благословеное надѣи ожидать могла».

У канцы пасьвячэньня аўтар просіць выбачэньня за скромную павярхоўнасьць гэтае першае спробы яго выданьня, і высказвае надзею ў далейшым выдаць нешта лепшае: «А то, што ся на тотъ часъ, хотя не съ таковое годности, яковое бы святые табліци Божіе достойны былі, але зъ якого-жь кольвек даного таланту вѣръце отъ вѣръного Христового збору братьи, а слугъ вашихъ княжацскихъ милости на томъ новомъ початку покоротънѣ выдать могло просимо, рачъте ваши княжацскіе милости дотуль зъ ласкою за вдячнѣ пріимовати, покуль Панъ Бог до чого большого допомочи будеть рачилъ».

З паказаных вышэй выпісак відаць, што, заляцаючы сваю кнігу чытачом «языка Руского» і іх дзецям, Будны толькі адзін раз успамінае аб сваіх братох-аднаверцах,—«браты вѣрного Христового збору», не выстаўляючы на першы плян рэлігійнае прапаганды. Затое асабліва моцна й настойна ён паднімае нацыянальнае пытаньне, выстаўляючы на першае месца ў сваіх выданьнях справу аб захаваньні роднае мовы. Вышэй мы адзначылі, як вельмі паважаў Будны мову кожнага народу, кожнае краіны. З гэтага боку погляды Буднага, як пісьменьніка

[1]) Вышэйшыя абавязкі.

[2]) На палёх вытлумачана «овоц».





XVI в., стаяць бязьмеры вышэй, чымся тагочасныя мыльныя й бязумоўна шкадлівыя імкненьні да прымусовай замены мясцовых моваў аднэй агульнай «дзяржаўнай» мовай, што зрабіць пэўна лягчэй, чымся прымусіць дакладна пазнаёміцца з гэтымі мовамі тых, каму гэта патрэбна дзеля «дзяржаўных» мэтаў. Будны заве гэтае вымаганьне проста «глупствам». Але сам ён адносіўся з нейкай асаблівай пашанаю якраз да беларускае мовы, хаця няма пэўных даных аб яго беларусінскім пахаджэньні. У яго не магло зьмясьціцца ў галаве тое, каб беларускі народ, лікам у некалькі міліёнаў, ня мог вольна карыстацца сваёй роднай мовай, і каб мова гэтага народу, якая ўзяла свой пачатак у старой славянскай і літаратурнай мове, лічылася няпрыгоднай дзеля друкаванай кнігі ў новую гуманную эпоху. І вось, прапануючы палякам сваю біблію на польскай мове, Будны не забывае й аб беларускім народзе. Рупячыся аб яго асьвеце, Будны выдае яшчэ нават раней за польскую біблію, беларускі лютаранскі катахізіс, бо ён пераананы, што ў пратэстанцкім тлумачэньні навука Хрыста выяўляецца найлепш, і што пратэстанты сваёю крытыкай вызваляюць думку й адкрываюць шлях да вольнага разьвіцьця й да новае асьветы, якая зьвястуе эпоху адраджэньня. А справа асьветы моцна была заняпала ў беларускім грамадзянстве з тае прычыны, што вельмі мала мелася школаў, а праваслаўнае духавенства было страшэнна мала адукавана. Толькі з канца XVI-га сталецьця пачынаюць арганізоўвацца ў розных мясцох краю беларускія брацтвы, якія паміж іншым бяруць у свае рукі справу народнае асьветы. Аднак у самых брацтвах было шмат чаго дрэннага; недарма іх уставы забаранялі на брацкіх бясьседах, на хаўтурох і інш. пачастунках не напівацца, не разьліваць мёду, не заводзіць бойкі, не сварыцца па месцы і г. д., а каб унікнуць няшчасьця, забаранялася прыходзіць на брацкія сходы з аружжам. Напрыклад, статут Віленскага брацтва 1582 г. вымагае, «ижбы братья въ оное братство вписные и гости приходячіе съ почтивостью въ дому братскомъ сѣдѣли, словъ збытныхъ межи собою не мовили, и на столъ не взлегали, и меду их братского не розливали, одно бы слушне и подлугъ мѣры пили, а никоторыхъ шкодъ не дѣлали; а пакъ ли бы ся хто упивши якіе збытки починилъ, слова непочтивые мовилъ, альбо на столъ взлегалъ и питье розливалъ, тогды старосты таковаго маютъ первѣй словы скарати, а естли кто упорны будетъ и отъ того ся не повстягнетъ таковаго, яко упорного, виною братскою маюти карати, чимъ братія обложатъ... Тежъ которые бы люди духовные якого-жъ кольвекъ стану, Римской веры и Греческой, будучи вписаные въ тое их братство, хотя бы тежъ и невписаные до оного братства ихъ приходили, прошеные отъ кого на свою учту, альбо ся хто бы на день вкупилъ, хотѣчи меду ихъ братского напитись и бесѣду съ

братьею мѣти, и придало бы ся ему съ кимъ въ томъ ихъ братствѣ ростырку, або зваду почати, тогды о тыхъ дѣлѣхъ таковые духовные люди... не мають ся отъ судовъ отзывати, ани жадной помочи з урадовъ своихъ на то собѣ брати» і інш. (Акты Зап. Рус., т. III, № 131). Дакуманты таго часу адзначаюць «великое грубіянство и недбалость» духавенства; апошняя часта назначаюцца й скідаюцца патронамі з асабістых поглядаў бяз ведама біскупа; некаторыя духоўнікі, а асабліва манахі, вядуць валакіцкае жыцьцё, пераходзячы з парафіі да парафіі, з манастыру да манастыру, і пакідаючы на даволі доўгі час сваіх парафіянаў бяз духоўнае апекі. Вось чаму, як скарджыўся мітрапаліта Солтан у 1509 г., «многіе люди, Русь, по нашимъ мѣстомъ и по княжскимъ и по панскимъ незаконно мѣшкають, жоны поимучи не вѣнчаются, и дѣтей крестити не ходятъ, и на исповѣдь не ходятъ». Вышэйшае духавенства гэтак сама не заўсёды магло даваць добры прыклад ніжэйшаму й падніма̄ць абычайнасьць у народзе. Біскупскія й нават мітрапаліцкія пасады часта даставаліся нягодным асобам, часамі нават зусім мала граматным, за іх асабістыя заслугі перад каралём, ці дзякуючы пратэкцыі ўплывовых асобаў. Стары звычай выбіраць біскупаў «усім паспольствам» быў заменены «челобитьемъ» г. зн. куплёю й прадажаю герархічных мясцоў, якія вельмі часта займаліся сьвецкімі асобамі, зусім непадгатаванымі да высокага духоўнага стану й не жадаўшымі прыгэтым пакідаць сваіх даўнейшых сьвецкіх прывычак. Часамі яны па некалькі год кіравалі біскупствамі, ня прымаючы духоўнага стану, і самі ў свой чарод аддавалі цэрквы проста ў арэнду сьвецкім асобам, мяшчанам, гандляром[1]). Іх цікавілі толькі даходы з вялізных царкоўных маёнткаў, а не народ, які знаходзіўся пад іх духоўнай апекай. Нічога дзіўнага, што на працягу ўсяго XV і XVI в. в. не паявілася ніводнага самастойнага „поученія“ ад вышэйшага духавенства на Беларусі; не падало гэтае духавенства свайго аўтарытэтнага слова за тое, каб закладаць школы, дзеля падгатоўкі духавенства, ня кажучы ўжо аб народнай асьвеце. Пры гэтых умовах лёгка зразумець і вытлумачыць усю глыбіню цемры й маральнага занападу на Беларусі, як паміж мяшчанствам, гэтак і сялянствам, у азначны пэрыяд; аб гэтым сьведчаць і чужаземцы, якія наведваліся сюды й асабліва дзівіліся панаваўшаму тут п'янству: «У гарадох літоўскіх»,--кажа адзін з гэтых сьведак--Міхалён Ліцьвін у сваям творы аб звычаях татар, ліцьвіноў і маскоўцаў,—няма іншых

[1]) Гл. Лявіцкага: „Внутреннее состояніе западно-русской церкви въ концѣ XVI в.; (стр. 49—63 і 76—80) Кіеў 1887 г. (З прадмовы да 1-ай ч. VI тому: „Архива Юго-западной Россіі“).

заводаў, як тыя, па якіх варыцца з жыта гарэлка й піва. Дзень пачынаецца ў іх піцьцём гарэлкі; яшчэ ў пасьцелі крычаць: «гарэлкі, гарэлкі»—і п'юць гэтую атруту і мужчыны, і кабеты, і моладзь на вуліцах і пляцох; сяляне, пакінуўшы поле, ідуць у шынкі й п'юць там днямі й начамі; гэткім чынам яны вельмі зубожалі, а зладзейства й грабаўніцтва сталі там звычайным зьявішчам, дзякуючы чаму ў кожнай літоўскай правінцыі за гэтыя праступкі больш караюць сьмерцю людзей, чымся ва ўсіх землях татарскіх,—дзе ўжываць гарэлку забаронена законам. Поўная адсутнасьць культурнага жыцьця, самаволя, уціск простага народу панамі, перакупнасьць адміністрацыі й судзьдзяў—вось абраз таго маральнага заняпаду, які быў няўхільным скуткам браку асьветы й духоўнага выхаваньня народу.

Ці-ж маглі не жалець гэтага народу й сваёй бацькаўшчыны тыя нямногія прасьвячоныя людзі, якія бачылі й глыбока адчувалі гэтае зло, і да ліку якіх прыналежаў і Сымон Будны? Як ім было не вінаваціць і не ўмаўляць тых, у чыіх руках знаходзілася будучына краю й дабрабыт народу—адміністрацыю, панства й духавенства? Як ім было не падзяляць новых думак, якія прыйшлі знадворку, каб зруйнаваць гнілы лад і залажыць новыя падваліны жыцьця? А ў гэты час якраз нахлынулі з захаду зьвястуны новае рэлігіі — пратэстантызму, якія паднялі пытаньне аб грунтоўных рэформах царкоўнага ладу і аб поўным аднаўленьні духоўнага жыцьця. Няма нічога дзіўнага, што за імі пайшло шмат беларускага грамадзянства, у тым ліку й гэткія літаратурныя сілы, як Сымон Будны й Васіль Цапінскі, аб якім гутарка будзе ніжэй.

Погляды Буднага на гэтыя пытаньні выдажаны коратка ў яго прадмове да Катыхізісу 1562 г. На гэтай прадмове варта крыху затрымацца, каб пазнаёміцца гэтак сама з літаратурным складам і моваю гэтага пісьменьніка. Вось загаловак і пачатак прадмовы (паводле сучаснага правопісу): «К усім благаверным хрысьціанам языка рускага прадсловіе ў Катыхісію».

«Катыхісіс слово ест грэчаскага языка, сказует жэ ся на славенскую рэч аглашэньнеілі гласам учэніе. Ведама бо маець быці, іж Апосталы й іх учаніцы ня тако скора й ня так латве ад ельлін імют жыдоў к веры Хрыстовай прыступаюшчых тайнамі сьвятымі служылі... Досыць бо яўна, іж апосталы нікога ад паган і ад жыдоў ня хрысьцілі, ажа пярвей онага навучылі й у веры іскусілі» Згодна з гэтым у разьдзеле аб сьвятым хрышчэньні аўтар зауважвае: «Пра то не гаразд цяпер некаторыі чыняць, оніжа жыдоў, турчынаў, татар і іных паган, не навучыўшы ані жыцьця іх дазнаўшы, хрысьцяць».

Вытлумачыўшы затым, як узмацнялася хрысьціянства, пакуль да яго з павагаю адносіліся самі веруючыя і іх кіраўнікі, аўтар далей кажа: «Лец дыябал не дапусьціў сяму абычаю доўга межы хрысьціянамі стаяць, сьпячым бо чалавекам, па слову Евангельскаму, прыйдзе й высеяў плявёлы. Се ест, калі ся лянілі учыці людзей, научыў іх дыябал, абы верылі, іж без наукі, бяз веры і бяз іспавяданія можаць чалавек спасен быць, толькі бы вадою ў дзяцінстве ахрышчаны быў, а прышэдшы к розуму, толькі бы ў пэўныя дні мяса ня еў, міластыню хацяць ад злога набыці даваў, сьвятым ся маліў і таковыя рэчы па абычаю захаваў. А наастатак на тое ся спушчалі, естлі хто меў, што бы папом па душы даў абы цела на пасьвяшчонай зямлі палажылі, праводзілі, паміналі, трэціны, дзявяціны, паўсарочыны, сарочыны, паўгодзіны і годзіны, і іншыя таковыя вымыслы чынілі. Для таго іменьня, сёла, места адпісвалі, манастыры й будаваныя цэрквы надавалі, або зноў будавалі колакалы, пацірыоны[1]), дыскосы[2]), рызы, іконы ілі балваны[3]) купавалі надзяваючысы[4]) для таковых спраў спасеньня, царствія Божага й жывата вечнага». Аўтар вінаваціць духавенства, што яно ня тлумачыць народу самой сутнасьці Хрыстовай веры, а здавальняецца толькі абрадамі: «Тыя так ня толькі не навучаюць, але й самі мала праўды знаюць, і оным, каторыя бы вучыці хацелі, забараняюць, ня йнача, яко прад тым законьнікі жыдоўскія».

Наогул, тагочасныя царкоўныя парадкі выклікаюць папрокі з боку Буднага: «Не надабе аб тым многа пісаці,—кажа ён ў тэй-жа прадмове—усе бо ведаем, яковых цяпер вучыцеляў імаем. Ведаець весь сьвет, яко па свае сьцепені[5]) уступаюць; ня тайна тэж, яко на ніх стаяць і справуюцца. Лепш плакаці, нежалі іх норавы выпісываць».

Чакаць іх папраўы, па думцы аўтара, няма надзеі. Застаецца адно: уцякаць ад гэткіх вучыцялёў і шукаць іншых. Якіх-жа? Мабыць, такіх, якія пашыраюць навуку, палажаную ў аснову памянёнаѓа Катыхізісу, г. зн. пратэстантаў. «Оно пэўная рэч,—піша ён далей,—іж напрасна іх напраўленьня ў навуцы ілі ў жыцьці ждаці. Лучшай, абы кажды, хто ня хочаць згінуці, іншага сабе лякарства зачасу шукаў, а такавым пастарам пакой даў»... Або, лепш было-б

[1]) келіхі.
[2]) кубкі.
[3]) статуі.
[4]) спадзяючыся.
[5]) абавязак, сан.

гэтых пастараў прагаляць вон: «Учыцель наказаньнем, научэньнем і напаміланьнем захоўуець людзей ад духоўнае гнілі, але естлі таго ня чыніць, павеляваець Гасподзь вон яго выкінуць». Даўяраціа нягоднаму пастыру небясьпечна, бо ў сьв. пісьме сказана: «Аще сьляпец сьляпца водзіць, оба ў яму впадзетася».—«Чаго-ж для ад таковых сьляпцоў не бяжым? Чаму ся, ім вадзіць дапушчаем»? І абураны гэтым становішчам Будны заклікае: «Зьміляйся ўжо кажды над сабою. Бога для! Устань ад сну, ужо пара абачыцца! Досыць есьмо ўжо спалі, калі есмо за справаю сіх сьляпцоў ні Бога ня зналі, ні аб спасеньні сваім, на чым ляжыць, ведалі».

Але цяпер настаюць лепшыя часы: «Ныне Бог міласьцівы, ужаліўшыся нас, адкрыў нам грэшным слова свае праўдзівае, і што дзень значней адкрываець. Учыцелей, ачкольвек зрэдка, верных пасылаець. Пра то гадзіцца й нам усім мецися к таму самым, абы есмо тае неізрачоннае ласкі ўдзячны былі, слова Божае обема, яко мовяць, рукамі прынялі, дзяржалі, па яму жылі й іных к няму прыводзілі».

Ясна, што пад новымі вучыцялямі, якія пасылаюцца Богам у апошнія часы й якія тлумачаць запраўдны зьмест слова Божага, Будны разумее пратэстанцкіх апосталаў і духоўнікаў, якія ў гэты час пачалі пашыраць сваю навуку на Беларусі. Да гэтае новае навукі й павінны зьвяртацца ўсе, хто шукае збаўленьня. Грунт для пратэстанцкае навукі быў даволі падгатаваны тым маральным заняпадам, аб якім мы казалі вышэй, і аб чым гэтак сама сьведчыць Будны ў вышэйвылажаных радкох яго прадмовы да Катыхізісу.

Выдаючы гэты Катыхізіс, Будны меў на ўвазе гэткае заданьне: «абы усе, слова Божае й іосціны разуменьня жаждушчыя, мелі, чаго бы ся й самі вучылі й дзетак сваіх навучалі». Прыгэтым ён спадзяваўся з часам шырэй апрацаваць некаторыя пытаньні.—«А ведзь жа напатом, естлі будзець Божая воля, можацца шырэй ў другое ўправіці. Найболей чацьвертая часьць, се ест осьвятым хрышчэньні й о вячэры Сына Божага, памысьліці можам апрычную кніжку выпусьціць». Але, як відаць, новая перамена ў поглядах аўтара, пераход яго ў сацыніянства, разам з гэтым перамена службы й месца пражываньня, а гэтак сама пасьпешная праца над перакладам і выданьнем польскае біблії, дзякуючы якой ён, як сам піша ў адным пісьме, нават часова ўтраціў зрок,—усё гэта перашкодзіла яму напісаць «апрычную кніжку», прынамсі яна у літаратуры невядома. Але праз чатыры месяцы пасьля Катыхізісу Будны пад сваімі ін цыяламі «С. Б.» выдаў у тэй-жа друкарні на беларускай мове сваю вышэйпамянёную

кніжку: «О оправданіи грѣшника предъ Богомъ», у якой у дальшым пягу праводзіў свае пратэстанцкія погляды. Магчыма, што якраз гэты твор ён меў на ўвазе, калі ў прадмове да Катыхізісу абяцаў сваім чытачом выдаць новую кніжку. Мясцовы сабор, угледзіўшы ў гэтых выданьнях рэфармацкія думкі, асудзіў Буднага, як гарэтыка й пазбавіў яго духоўнага стану; пасьля гэтага Будны публічна быў адмовіўся ад сваіх поглядаў. Гэта адбывалася ў 1582 г., а ў наступным Будны выпушчае на польскай мове свой новы твор: «O urządzie miecza używającem», у форме дыялёгу; у гэтым творы Будны, пя тоячы сваіх сымпатыяў да навамоднае навукі сацыніян, стараецца давесьці, насупраць скрайнім дзеячом гэтае навукі, што нічога няма дрэннага, калі хрысьціяне будуць слухацца зямное ўлады й самі будуць уладаць зямлёю, падданымі й нявольнікамі (але толькі «богабаязна»), што не забараняецца ўжываць зброі, прымаць удзел на вайне і г. д.[1]) Гэтых поглядаў Будны бараніў нават на публічных спрэчках. Мы ня будзем доўга супыняцца на яго польскіх і лацінскіх творах, бо яны не датычаць нашага найбліжшага заданьня, хаця якраз у гэтых творах з вялікшай дакладнасьцю выяўляюцца рэлігійныя, сацыяльна-палітычныя й філёзафскія погляды Буднага.

Рэлігійныя погляды Буднага найбольш выразна выяўлены: 1) У яго вядомым творы: «O przedniejszych wiary chrystiańskiej artykulech», выданым у 1570 г. у Лоску. Кніжка вельмі рэдкая, і з яе зьместам можна пазнаёміцца толькі па выпісках у Jocher'а: «Obraz bibliograficzno-historycznej literatury i nauk w Polsce T. II. Wilno, 1842, № 3094. стр. 232 і 510-512. Гэты твор выклікаў адказ у польскай літаратуры. Гл. «Wiszniewski, Historja literatury Polskiej», т. IX, стр. 68-92, 174. 2) У выданым у яго перакладзе творы: «Sw. Justyna Rozmowa z Trytonem Żydem», з яго прадм. Выд. ў Несьвіжы 1564 г. Гл. Wiszniewski, т. VI, стр. 546.

Аб яго стасунку да палітычных пытаньняў сьведчаць некаторыя выданьні, у якіх Будны прымаў удзел (Гл. Wiszniewski, т. IX, 338-9), а гэтак сама яго ўласны твор процiў Марціна Чаховіча, у якім ён адмаўляецца ад удзелу ў палітычных справах: «Refutatio argumentorum M. Czechowicii. Losk, 1574.

Погляд Буднага на сьмертную кару выяўляецца ў яго брашурцы, выданай ім у 1576 г. ў Лоску: «O furyach albo szaleństwach francuskich, to jest o strasznem, a niesłusznem admirała Kas-

[1]) Памянёны твор дакладна разгледжаны з арыгінальнымі выпіскамі ў Брукнэра: „Różnowiercy polscy", I, 163 і наст. Ядыны экзэмпляр яго маецца ў бібліятэцы Чартарыскіх (Merczyng).

tylionskiego y innych mężów zamordowaniu». Што-ж датыча яго вышэй памянёнага твору на беларускай мове, («О оправданіи» і інш.) то аб ім мы, на жаль, можам казаць толькі агулова й дагадкамі, бо гэтага твору цяпер няма ні ў воднай кніжніцы, хаця яшчэ на пачатку мінулага сталецьця гэтая кніжка была вядома бібліографу Сопікаву, які апісаў яе ў сваім «Опытѣ россійской библіографіи», пад № 793.

Хаця ў гэтым творы Будны трымаецца пэўных сацыніянскіх поглядаў, аднак стараецца не высказваць іх яўна, а будуе свае вывады больш на грунце маральным і гуманным, чымся на сухіх догматычна-багаслоўскіх асновах і рахубах.

Пытаньні дзяржаўна-палітычнага характару аб урадовай уладзе, аб праве вайны, аб сьмертнай кары, аб нявольніцтве і г. д., якія гэтак цікавілі яго аднадумцаў, з Марцінам Чаховічам на чале,—мала закранулі Буднага, і ня імі ён кіраваўся ў сваёй працы. Усе імкненьні тэй памяркоўнай грамады сацыніян, да якіх далучаўся Будны, былі пакіраваны на справу народнае асьветы. І гэтая прасьветная праца сацыніян, з нахілам іх навукі да рацыяналізму й свабоды думкі, наймацней вабіла да іх спачуваючых і павялічвала лік іх прыхільнікаў, як у вышэйшым, гэтак і ў сярэднім станах, а часта і ў народзе. Гэтым тлумачыцца хуткае й даволі значнае паваджэньне гэтае новае навукі ў Польшчы, Галіччыне, Беларусі, Літве, на Валыні і Украіне. І запраўды, цікаўна, што дзе толькі паяўлялася хаця невялікая грамада сацыніян, там зараз-жа закладаліся школы, прытулкі, шпіталі, а часта й друкарня, дзеля выданьня кніг на мясцовых мовах. Гісторыкі справядліва адзначаюць, што ў XIV-XVII в.в. ніхто больш не зрабіў для народнае асьветы, як гэтыя «гарэтыкі». Але сацыніяне зьяўляліся вялікай небясьпекай для каталікаў і праваслаўных, і злучанымі патугамі адных і другіх, асабліва-ж іезуітаў, яны нарэшце былі на пачатку XVIII в. прагнаны адусюль і нашлі сабе прыпынак толькі ў вольнай Галяндыі[1]).

Будны не дажыў да гэтага разгрому, але пры жыцьці нажыў сабе шмат ворагаў, як з боку каталікаў і пратэстантаў, гэтак і з боку праваслаўных, якія бачылі ў сацыніянстве нішто іншае, як адраджэньне гарэзыі «жыдовінаў», пранікшай з захаду нават у Маскву ўжо пры Іване III і меўшай прыхільнікаў пры двары самога цара. З боку праваслаўных процiў Буднага паўстаў быўшы ігумен Троіцка-

---

[1]) Гл. *Лявіцкага:* Социніанство въ Польшѣ и Юго-западной Руси въ XVI—XVII в.в. Кіевъ 1882 (З журн. «Кіевская Старина» 1882 г. кн. IV—VI).

Сергіева манастыру—старац Арцём, які ўцёк на Беларусь з тае прычыны, што на Стоглавым саборы пры Іване Грозным яго абвінавачвалі за вольнадумства й зносіны з князем Курбскім. У сваіх двох аблырных „Посланіяхъ до Симона еретика Будного“,[1]) ён пабратэрску намаўляе Буднага апамятацца, даводзіць мыльнасьць яго багаслоўскіх поглядаў і нязгоднасьць іх з навучаньнем айцоў царквы, а гэтак сама вінаваціць яго ў свабодным тлумачэньні тэкстаў сьв. пісьма, у чым Будны часамі быў вінаваты, хаця сам вымагаў ад іншых дакладнасьці й стараўся апірацца на грэцкія й гэбрайскія крыніцы.

Супроць Буднага й яго супрацоўнікаў па выдавецтву, як відаць, паўстае патрыярха Адрыян, калі ён (ці ад імя яго хто іншы) кажа ў прадмове да «Православного Исповѣданія вѣры:»—«Мартина убо Лютера ученицы, изобрѣтше писмена славенороссійская, точная, чистая, и приведше на славенский чистый діалектъ своихъ лживыхъ догматовъ доводы и ти потомъ издавше, изнесоша на свѣтъ свой яда полный не цвѣтъ, обухающіе услаждающій, но тернъ, осязающія убодающій, двѣ книжичицы, едину въ полдесть въ градѣ Несьвижинѣ въ лѣто 1562, вторую сокращенну въ четверть въ градѣ Стіоколнѣ въ лѣто 1628, нарекше тыя книжицы Катихисисъ», і інш.[2])

Яшчэ з большай злосьцю нападалі на яго ворагі ў польскай літаратуры, тым больш, што ў сваіх польскіх і лацінскіх трактатах, як мы бачылі, Будны не абмяжоўваўся толькі рэлігійна-догматычным пытаньнем, але зачапляў гэтак сама й пытаньні палітычныя й сацыяльныя.

Усе выложаныя тут коратка факты даволі ясна, хаця і ў агульных рысах, малююць нязвычайную асабістасьць нашага пісьменьніка, чалавека адукаванага, які стараўся выкарыстаць сваю адукацыю на пажытак усяму грамадзянству, не шкадуючы сваёй энэргіі, здароўя й коштаў; шукаў бязупынку новых шляхаў, не ганяючыся ніколі за жаднымі карысьцямі й выгодамі; прымаў самы чынны ўдзел у ўмысловым жыцьці свайго веку й сваімі літаратурнымі працамі стараўся будзіць грамадзянскую думку й заміраўшае сумленьне. У тыя часы

---

1) Е. Будрына: „Антитринитаріи XVI в. I—Мих. Серветъ и его время. II—Фаустъ Социнъ. III—Разборъ вѣроученія социніанской секты. Казань, 1878-89.—Henrych Merczyng: Polscy deiści i wolnomysliciele za Jagiellonów (з. т. XII, вып. 2 „Przeglądu Historycznego“) Warszawa, 1911. 8 (30 стр.). Яго-ж: Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913. (гэтае працы пакуль не ўдалося бачыць). Aks. Brückner: „Różnowiercy Polscy. Szkice obyczajowe i literackie, Serja I Warszawa, 1905 (Спачатку друкавалае ў „Ateneum“ (1896-98 г.).

2) Катыхізіс Буднага быў перадрукованы ў 1628 г. ў Стакгольме для беларусаў—лютаран, адыйшоўшых па Стакгольскім дагаворы 1617 г. да Швэцыі.

рэлігійнага фанатызму кожная праява крытычнае думкі разглядалася, як гарэзыя й божая абраза. І калі ўсюды дыміліся вогнішчы інквізыцыі, мы можам лічыць за шчасьце, што Буднага не спаткаў той самы лёс, які зьвёў са сьвету яго нешчасьлівага настаўніка Сэрвэта. А тыя сацыяльна-палітычныя ідэі, якімі ён цікавіўся 400 год таму назад, як—ідэі дзяржаўныя, пытаньні вайны й міру, правы жыцьця й свабоды асабістасьці—жывуць і ў сучасны нам момант і будуць жыць яшчэ сталецьці, мяняючы свой выгляд і пэрыадычна паўтараючыся, як недасягальныя імкненьні чалавецтва.

---

## IV

Дзякуючы нядаўным навуковым выведам, нам стаў вядомы й трэні прадстаўнік і ідэёвы працаўнік на ніве кніжнае справы на Беларусі ў XVI веку. Гэта вышэйпамянёны Васіль Цяпінскі.[1]) Ён быў сучасьнік і аднамысьнік Буднага, шляхціц, родам з Полацкай зямлі, дзе ў яго быў уласны маёнтак Цяпіна, ад якога, мабыць, і бярэ пачатак яго прозьвішча, тым больш, што ў актах літоўскай мэтрыкі ён завецца падвойным прозьвішчам: Васіль Мікалаевіч Цяпінскі-Амельяновіч. Хаця польскія крыніцы завуць яго ліцьвіном, але сам ён лічыў сябе «русінам», г. зн. беларусінам. Сваімі рэлігійнымі поглядамі ён, як і Будны, далучаўся перш да пратэстантаў, а пасьля да сацыніян, хаця й памяркоўных: ён лічыў, што хрысьціянская рэлігія не забараняе прымаць удзелу на вайне, мець уласную зямлю й карыстацца правам «паншчыны», што адкідалася іншымі.

У сваіх творах Цяпінскі вельмі высока ставіць Беларускі народ, праслаўляе яго мінуўшчыну й тужыць аб тым, што асьвета й абычайнасьць у гэтым народзе вельмі заняпалі. Вінаваціць ён у гэтым прасьвячоных і знатных людзей, якія зусім ня дбаюць аб народзе, а яшчэ больш—духоўных правадыроў народу—пастыраў і настаўнікаў, якія забыліся аб сваіх абавязках—і іншых не навучаюць і самі ня вучацца. Некаторыя з іх, як сьведчыць Цяпінскі, нават самі не разумеюць тае мовы, на якой моляцца ў царквох; тым больш яе не разумеюць простыя нявучоныя людзі; а адукаваныя людзі й асобы вышэйшага стану, замест таго, каб навучаць народ і самым падаваць прыклад, як трэ' любіць родную мову, адмаўляюцца ад яе, лічачы гэтую мову недалікатнай, надта грубай. І гэтакім чынам бацькаўшчына няўхільна пасоўваецца да поўнай загубы сваіх ранейшых культурных здабыткаў.

Ня лічачы сябе ні вучоным, ні знатным, ні багатым, Цяпінскі,

---

[1]) Годы яго жыцьця дакладна нявыясьнены: радзіўся каля 1540г., памёр каля 1603г. (у гэтым якраз годзе паміж яго двама сынамі вялася судовая калакіта за падзел спадчыны).

як шчыры патрыота, заяўляе, што ён пастанавіў усе свае сілы й сродкі ахвяраваць на паратунак айчызны, а калі ёй суджана згінуць, то і ён гатоў аддаць сваё жыцьцё, каб згінуць разам з ёю. Каханьне бацькаўшчыны й роднае мовы ён ставіць галоўнай падвалінай сваёй працы й стараецца пераканаць у гэтым і іншых. Жадаючы, з аднаго боку, паказаць, што беларуская мова ня горшая, чымся мовы іншых культурных народаў, і мае права ўжывацца ў кнігах, нават царкоўных, а з другога боку, хочучы даць магчымасьць сваім братом беларусінам навучацца слова Божага на роднай мове,— Цяпінскі прыступіў да перакладу эвангельля на беларускую мову, ня гледзячы на тыя прыкрасьці, якія яму прышлося праз гэта перажыць. Ён кіраваўся толькі «зычлівасьцю» да сваёй айчызны й роднага беларускага народу, які знаходзіўся ў духоўнай цемры й заняпадзе. Заклікаючы ўсіх больш-менш заможных да „улітаваньня“ над «убогаю прастатою» народу, ён сам стараецца быць гэтаму прыкладам, аддаючы ўсе свае сілы й сродкі на народную асьвету.

Закончыўшы свой пераклад эвангельля ад Мацьвея, Марка і часткай Лукі, Цяпінскі з вялікім цяжарам надрукаваў гэтую першую частку сваёй працы ў сваёй «убогай друкарні», якую, мабыць заладзіў у сваім невялікім маёнтку на бацькаўшчыне. Загаловак гэтага вельмі рэдкага выданьня гэткі: «Первая часть Нового Завѣта або Тастаменту, подлуг словеньского роздзеленья, то есть отъ чотырехъ евангелистовъ светое Евангеліе Ісуса Христа списаное». Дагэтуль вядома ўсяго два (няпоўныя) экзэмпляры гэтага выданьня: адзін у Петраградзкай публічнай бібліатэцы, другі—ў бібліатэцы Сійскага манастыра, Архангельскае губ. Пры першым з іх маецца рукапісная прадмова Цяпінскага, якою мы ніжэй карыстаемся з перадруку ў «Кіев. Старинѣ» (1889 г., студзень). На жаль, у ніводным з двох экзэмпляраў няма дакладнага азначэньня месца й часу выданьня, і сама кніжка зьяўляецца вялікай рэдкасьцю, тым больш, што й каталікі й праваслаўныя стараліся яе зьнішчыць за «гарэтыцкія» погляды яе перакладчыка й выдаўцы. Дзеля большай выгоды, і каб не запаміналася славянская мова, Цяпінскі побач з беларускім тэкстам у першай калюмацы надрукаваў і царкоўна-славянскі тэкст; апрача гэтага, зьмясьціў у сваім выданьні розныя тлумачэньні і абшырную прадмову, у якой вызначыў мэту выданьня гэтай кніжкі й дрэнныя ўмовіны, пры якіх адбываўся пераклад і друк яе, а гэтак сама выкажыў, хаця й ня зусім складна, свае грамадзянска - палітычныя й рэлігійныя перакананьні. З літаратурнага боку гэтая прадмова ёсьць цікавым помнікам беларускага пісьменства канца XVI сталецьця (1540—1580 г. г.),

хаця поўнага погляду на гэта няма. Бязспрэчна толькі тое, што Цяпінскі быў сучасьнікам Буднага, з якім ён спатыкаўся на зьездах «брацiяў», а магчыма, што й бліжэй быў знаёмым, дзякуючы падабенству іх працы й перакананьняў: адзін і другі былі прыхільнікамі сацынiянства. Сымон Будны ня раз успамінае аб ім. Гэтак у сваім трактаце на польскай мове, аб галоўных асновах хрысьціянскай веры[1]), у прадмове ён кажа, што ўжо меў выпадак выкладаць свае погляды на гэтае пытаньне на брацкім сходзе «w domu brata miłego Wasila Ciapińskiego», у 1574 г. Праз чатыры гады, калі Будны ўжо перабраўся ў Лоск, там адбыўся зьезд сацынiян, аб якім успамінае Будны ў сваёй працы аб ужываньні аружжа.[2])

Разважаліся на гэтым зьезьдзе пытаньні аб тым, ці можна карыстацца зямельнаю ўласнасьцю, і аб стасунку да вайны. Некаторыя, асабліва Марцін Чаховіч, (які гэтак сама выдаў Новы Завет у сваім польскім перакладзе ў 1577 г. у Ракаве, Радамскай губ., дзе была сацынiянская акадэмія), бязумоўна адкідалі зямельную ўласнасьць і вайну, тады як «szlachcic Bazil Ciapiński, a przy nim i innych kilku», у тым ліку й Будны, высказываліся, што адно й другое не пярэчыць эвангельлю; але спрэчка закончылася нічым, а на другі дзень разьехаліся.

Абмінаючы пытаньне аб рэлігійных пераканаьнях Цяпінскага, мы аднак лічым карысным і канечным бліжэй пазнаёміць чытачоў з памянёнаю яго прадмоваю да эвангельля, якая, бязумоўна, зьяўляецца вельмі цікаўным творам нашага старадаўнага пісьменства з боку літаратурнага й грамадзянска-палітычнага. Вось гэтая прадмова:

## Предмова.

Василей Тяпинскій монархіи словенской, злаща[3]) богобойным ласка и покой отъ Бога Отца и Пана нашого Іисуса Христа.

Радъ покажу мою вѣру, которую маю, а злаща народу своему рускому. Тые ее онымъ давнимъ вѣкомъ славною предковъ своихъ умѣетностью покорне, яко домниваю[4]), потвердять, а естли есть въ чомъ блудна, оны то поправятъ: ведь же держу не иначей, одно зъ евангеліи, отъ Бога черезъ Христа Пана и Его Апостоловъ поданое, которая зъ словенского, абы имъ тежъ ихъ власнымъ езыкомъ рускимъ, въ друку вышла.

---

1) O przedniejszych wiary chrystyańskiej artikulech, 1576 г.
2) Urząd miecza używający, 1583 г.
3) Асабліва.
4) Спадзяюся.

И отое[1]), маючи Пана на помочи, не смысленымъ, або красомовнымъ выводомъ, не залецаными, ани часу угажаючими словы, але яко спрызливый простый, а щирій, правдиве, вѣрне, а отвористе, зъ зычливости ку моей отчизвѣ,—поневажъ, которымъ бы то властьѣй учинити пристоело, митрополитове, владыки, и нихто зъ учоныхъ черезъ такъ многій часъ не хотѣли,—зъ убогое своеѐ маетности народу моему услугую, на которой и тежъ при ней и на имѣнечку, хотяжъ то было невеликое, вжо дле накладу[2]), а злаща книгъ старыхъ давнихъ на розныхъ и неблизкихъ месцахъ доставаючи, надто еще въ минулые лѣта тяжкіе дороги дле друку и потребъ тому належачихъ подыймаючи, а праве все дотого зачинаючи знову, ачъ[3]) вельми'мъ сталъ вѣдь-же предсе[4]) и должачисе[5]).

И бы ми тежъ,—иже'мъ то не влохъ, не нѣмець, а не докторъ, и ніякій постановеный межи попы, але зъ чого бы мѣли Пана зъ выкриканемъ фалити[6]) и радоватисе, же зъ ихъ посредку русинъ ихъ имъ своеи Руси услугуючи,—бы ми, мовлю, яко то призвонто бываеть, и такою невдячностью, а нѣкоторые, вмѣсто помочи, або дяки, и зазростью платити хотѣли, не одно ми тое все для моеѐ повінности и ку нимъ зычливости не есть прикро, але и овшем за ласкою Пана Бога вдячно, стараючисе о ихъ збавенное, а на остатокъ учьстивое и зацное, хуть и упреймость сердца моего имъ показовать и то ку фале Божіей кончить.

Вжо бо еще хотяжъ то не безъ болшое трудности пришло, нижъ двѣма езыкы заразъ, и словенскимъ и при немъ тутъ-же рускимъ, а то наболшій словенскимъ, а злаща слово отъ слова такъ, яко они всѣ вездѣ во всихъ своихъ церквахъ чтутъ. и маютъ; не одно для лѣпшое ихъ вѣры, же се не новое што, але ихъ-же властное имъ подаетъ, але тежъ и для лѣпшого имъ розсудку, надто и для их самихъ навиченя въ томъ не леда[7]) учономъ езыку словенскомъ евангелія писаня святого Матфея и святого Марка и початокъ Луки есть въ той убогой моей друкарни отъ мене имъ выдруковано.

До чого, абы первей сами и ихъ дѣтки смыслы свои неяко готовали, острили и въ вѣрѣ прицвичали, тымъ часомъ тотъ Катехи-

---

1) вось.
2) друку.
3) хаця.
4) усё-ткі, адпак.
5) пазычаючы.
6) хваліць.
7) абы як.

сисъ, а который сами зданемъ своимъ, яко домниваю, за рѣчъ исте потребную, естли не заразъ, вжды[1]) зъ своимъ часомъ узнаютъ, имъ впередъ подаю.

Ово ихъ охотными и хутливыми ку можнѣйшимъ наукамъ въ словѣ своемъ, ку статочному розсудку и ку умѣетности Панъ учинитъ и взбудитъ. А то не безъ великое се потребы чинитъ, тая бо теперъ межи ними яко устала, яко загинула.

Обачиване речей жалосныхъ кгвалтомъ слова до устъ гонитъ. Бо а хто богобоязный, не задержитъ, на такую казнь Божію гледечи, хто бы не мусилъ плакати, видечи такъ великихъ княжатъ, такихъ пановъ значныхъ, такъ много дѣток невинныхъ, мужовъ зъ жонами въ такомъ зацномъ рускомъ, а злаща передъ тымъ довстилномъ, учономъ народѣ езыка своего славнаго занедбане, а просто взгарду, съ которое за покаранемъ Панскимъ оная ясная ихъ въ словѣ Божьемъ мудрость, а которая имъ была праве яко врожоная, гды отъ нихъ отышла, на её мѣстьце натыхмѣстъ такая оплаканая неумѣетность пришла, же вжо нѣкоторые и писмомъ се своимъ, а злаща въ словѣ Божемъ встыдаютъ. Анаостатокъ, што можетъ быти жалоснѣйшая, што пкарадша, ижъ и тые, што се межи ними зовутъ духовными и учители, смѣле мовлю, намнѣй его не вмѣютъ, намнѣй его вырозумѣня не знаютъ, ани се въ немъ цвичатъ, але ани школы ку науцѣ его нигдѣ не маютъ, зачимъ въ польскіе, або въ иные писма за такою неволею немало и у себе и дѣти не безъ встыду своего, бы се одно поучили, немалого заправуютъ.

Тутъ быхъ я имъ ихъ же хоть одного зъ мнозства личбы онихъ словянъ Іоанна, або Григорія, которыхъ, для великое нетолко въ своемъ, але тежъ и въ розныхъ езыкахъ науки и для вдячное ихъ вымовы, ажъ злотоустыми звали, бы были живы, радъ ихъ взялъ собѣ за причину до нихъ въ томъ, а наостатокъ за свѣтка имъ тое речи. Естлибъ бо теперъ были, застте зумѣть бы се мусели, видечи, яко заокраса и оздоба народу ихъ въ потомствѣ ихъ отнята, а просто загинула. Которымъ о якъ же бы потреба се станетъ о улитоване самихъ надъ собою! Гды бо бы не рекучи въ часы давніе посмотрѣли, яко то былъ зацный, славный, острый, довстипный народъ ихъ въ умѣетности, и яко многокротъ посторонніе учоные народы ихъ мудрость мусели похвалять, и овшемъ се отъ нихъ учить.

Але бы хоть самое писмо свое, тетраевангелія и апостола словенского, которое, могу мовить, передъ тисячею лѣтъ отъ нѣкоторого

[1]) усётkі.

зъ словянъ выложоно, а которое не одно въ ихъ, але и по всѣхъ церквахъ сербскихъ, московскихъ, волоскихъ, булгарскихъ, харвацкихъ и иныхъ чтутъ,—уважали. Исте, хто бы хотѣлъ, а умѣлъ тотъ выкладъ чести, обачилъ бы ихъ, цѣлевалъ, а снать и за собою оставилъ. Тотъ мужъ, нашъ милый словенинъ[1]), латынскихъ и иныхъ толмачовъ, яко властне слова зъ греческого выкладалъ, ижъ трудно зрозумѣть, чи болшь греческій, або словенскій езыкъ умѣлъ.

И бы не было болшь, тогды и оттуль досыць знакъ немалый маемъ, якъ предъ тымъ словяне, которымъ а што можетъ быть прироженного одно не рус, былъ людъ довстипный, а естлибы пакъ еще се коротко не фолкговало, а злаца бы были въ читанью писмъ своихъ оныхъ бѣглійшими, то есть же бы се не плонно[2]) имъ проводило. Бы были, мовлю, што се тамъ пишетъ, паметниками о ихъ довстипней острости, якіе оны синоды зъ папою римскимъ и зъ иными памети годные мѣвали, яко мнозства людей къ вѣрѣ зъ блудовъ выдвигали, и яко въ розмаитыхъ езыкахъ учоными были; ктому, яко животъ светобливый вели, яко тежъ межи собою злыхъ и фалшивыхъ въ вѣрѣ братовъ знашали, лечили, направляли; яко зась учителей своихъ[3]), водле науки слова Божего, светобливымъ малженствомъ отъ иныхъ отдѣлили и ихъ тымъ оздобеныхъ всимъ народамъ и вѣрамъ и понинѣ ку прикладу праве яко свѣчу, чистостю малженства свѣтячую, были показали,—было бы што заисте широце о нихъ выписовать. Але толко один явный, ясный, а вѣчное памети годный прикладъ ихъ припомню, а который безъ писма всимъ вѣдомый, значный, а праве видомый есть. Яко они дле такъ великое светобливости своеѣ мимо иныхъ такимъ гойнымъ даромъ были отъ Пана оздобени, же не рекучи мимо папу римского, але и мимо оныхъ часовъ наученшихъ народовъ въ Либіи, въ Антіохіи, въ Пентаполіи, Сыцыліи, въ Месопотаміи, въ Палестынѣ, въ Финицыи и индѣ. Яко то и на око бы се усмотрѣти могло и у намъ недалекихъ влоховъ, нѣмцовъ, поляковъ, французовъ, гангликовъ, гишпановъ, а коротко мовечи всихъ на свѣтѣ христіянскихъ народовъ, въ Словѣ Божьемъ прозрѣвши, сами одни только того были доказали, же подлугъ науки апостольское своимъ власнымъ езыкомъ отъ такъ давного часу Слово Боже выложили, и мѣли, и намъ зоставили. Въ чомъ иные вси народы ихъ прикладомъ ледве се ажъ за тыхъ нашихъ вѣковъ обачили, и

---

[1]) Разумецца Кірыл, вынаходца славянскай азбукі й перакладчык св. пісьма.

[2]) не дарма.

[3]) г. зн. Мэтодага і Кірыла.

дотого, што не безъ малого забуреня и ображеня пришли, же Слово Боже зъ латинскихъ и иныхъ писмъ своимъ тежъ езыкомъ прирожонымъ перекладати и читати почали.

Але далъ бы то Панъ, ижъ бы вы каждый отъ себе, о зацные панове, котори есте тои речи якобы отцами по такихъ фалебныхъ предкахъ своихъ позостали и на мѣстьца ихъ вступили, поневажъ въ томъ або жадное помочи люцкое дле грѣху нѣть, або толко вы сами тому зъ милости ку отчизнѣ вашой помочи бысте могли, гдыжъ простота человѣка бѣдного, посполитого на васъ очи завжды удавала и удаетъ и за вами идетъ.

Въ тую потребу отчизны вашое простоту грубую про недостатокъ науки брати вашое прикладомъ своимъ милосернымъ, если есть што милости братерское увасъ,—гдыжъ межи всими люцкостями ничого не есть такъ власного, а злаща богобойному человѣку, яко улитоване, которымъ указуемъ по собѣ нѣякое подобенство добротливости Божее, а наконецъ дле заплаты собѣ отъ Пана вѣчное,—тому народу вашому, неумѣетностью заведеному и утрапеному, допомогаючи, митрополита вашого, владыкъ и учителей вашихъ до того прозбами вашими вели, же бы не подкуповъ, не посуловъ дле посѣданя столицъ одинъ передъ другимъ, не доживотей и привилѣевъ одинъ надъ другого обварованѣйшихъ, але Слова Божего сами се учили и другихъ зъ маетностей и имѣней, отъ вашихъ предковъ имъ не на марнотрацства, не на строи и што такого, але дле наукъ наданыхъ. Ова бы ку науцѣ,—лечъ не такой, яко теперъ на вѣчный свой встыдъ толко прочести и то ледво, въ своемъ езыку не болшь учатсе,—школы заложити и науку Слова Божего, отъ такъ много лѣтъ занедбаную выдвигнути братьи вашои хотели и усиловали. Которыхъ я не одному которому, але всимъ и с тою потребою отчизны вашое богобойности, пилности, ростропности и вѣрности поручаю и зоставую, просечи Пана, абыхъ былъ готовъ, если она до конца згинетъ, зъ нею загинуть, або, если черезъ вашъ ретунокъ будетъ выдвигнена, зъ вами и зъ нею выбринуть.

А тутъ вжо конецъ рѣчи моей чиню, которую замыкаючи, и то въ жалости моей мовлю, если на тотъ часъ за нашу невдячность милосердья бы Божего не было, тую казнь отъ насъ отдалити. Злаща теперъ на око видимъ, ижъ вездѣ вси рѣчи злыми розсудками такъ суть попсованы, ижъ не можетъ быть ничого такъ добре поведено, на што бы потваръ не могла быть учинена, ани тежъ жадинъ отъ того, чого се разъ хватилъ, отступить не хочетъ, абы се не здалъ въ чомъ поблудить. Еще тежъ ижъ посполите бываетъ, же живого чело-

вѣка въ дарехъ, а злаща своего, або собѣ знаемого, люди скромне, и безъ образы зносить не могутъ. Про то абыхъ и при правдивой повѣсти зосталъ и злого мниманя ушолъ, немовлю всихъ, але такихъ ни усилною прозбою, ни плоннымъ забѣганемъ, ани лагодными и прибавляючими доводы спирати хочу, але учинивши повинности своей досыть, мусимъ до маестату Божего отозватсе, передъ которымъ вси стати мусимъ.

А въ томъ ничого не вонтьпимъ, же оный справедливый Судя рѣчь нашу пофалитъ, хотя ее так непріятели взгаржаютъ и выкидаютъ.

А теперъ побожного читолника дле Христа просимъ, естли мнимастъ въ насъ быть што выступного або зъ стороны науки, або зъ стороны насъ, абы того не приписовалъ нашой злости, але люцкой крѣпкости а неумеетности, а ижъ бы дле Христа отпустилъ. А естлижъ такъ рѣчь естъ немала, въ которой намъ вину даетъ, нехай насъ не соромотитъ, але насъ нехай въ томъ християнске напоминаетъ, бо естосмы готови изъ Іоаномъ Крестителемъ здробьѣти, абы Панъ Христосъ росъ.

Наостатокъ всихъ побожныхъ дле Христа просимъ, абы жадное васни[1]) не мѣли противъ тымъ, которіе насъ щипанемъ, огижанемъ преслѣдуютъ, або ижъ бы изъ Іяковомъ, або Іоаномъ не жадали спущеня огня зъ неба дле забореня господы и мѣсца у нихъ Слову Божему, а зъ нами нехай за нихъ Пана Бога просятъ, абы се упамятали а збавени были, и ижъ бы сами собѣ не зазрѣли такъ великое ласки Божее, зъ ихъ же имъ достойностью и зацностью зачинаючое. Аминь».

Гэтакім чынам, прадмова Цяпінскага зьмяшчае ў сабе, як ён выразіўся на самым пачатку, яго «веру», яго credo ў стасунку да пытаньняў сучаснага грамадзянска-палітычнага й часткай рэлігійнага жыцьця на Беларусі. Ідэя прадмовы зусім ясная. Цяпінскі горача рупіцца аб сваёй «айчызьне», аб Беларусі, аб беларускім народзе, смуціцца над яго ўбогасьцю, а асабліва над яго «грубасьцю», духоўнай цемраю й над заняпадам абычайнасьці. Прыгэтым адно зьвяртае на сябе нашу ўвагу й можа выклікаць сумненьні, гэта тое, што ён, будучы гарачым абаронцай свайго народу, у той-жа час як бы ставіць сябе з боку, дапускаючы гэткія выразы: іх народ, іх язык, іх вера і г. д., адным словам быццам гаворыць аб чымсь чужым для яго, на што ён пазірае з боку. Гэтая дваякасьць тлумачыцца нічым іншым, як толь-

---

[1]) няхай варожасьці.

кі розьніцай у рэлігіі. Беларускі народ, у сваёй гушчы—народ праваслаўны, быў для Цяпінскага, як пратэстанта ці сэктанта, нечымсь асобным, чужым з яго рэлігійнага пагляду. Але ў гэтым якраз і ёсьць заслуга Цяпінскага, што ён, адарваўшыся ад народу ў справе веры, не парваў з ім кроўнай сувязі; рэлігійная розьніца не перашкодзіла яму заступацца, бараніць правы народу, які быў іншае, чымсь ён, веры. Цяпінскі гэткім чынам падняўся да тае вялікай ідэі, што ў пытаньнях аб дабры народу не павінны мець уплыву рэлігійныя пагляды, якія зьяўляюцца асабістай справай кожнага чалавека. У тыя часы, калі рэлігійныя спрэчкі на Беларусі даходзілі да асаблівай заядласьці, Цяпінскі быў нязвычайным зьявішчам. І наогул, яго думкі й праца на карысьць беларускага народу, як ён яе разумеў, наскрозь прасякнуты шчырым і глыбокім каханьнем гэтага народу.

Мова Цяпінскага ня чыста народная, а кніжная, але яна далёка ўжо адышла ад царкоўна-славяншчыны й шмат прыняла ў сябе мясцовых элемэнтаў, ня толькі беларускіх, але падчас і польскіх. Ня гледзячы на гэта, вучоныя ўважаюць гэтую мову за беларускую, бо яна вельмі прыбліжаецца да тагочаснае беларускае народнае мовы. Гэтае зьявішча было ўласьцівым усяму беларускаму пісьменству XVI—XVII вв.; але ў стасунку да твораў і перакладаў Цяпінскага трэба прызнаць, што ў іх мы бачым найлепшыя ўзоры тагочаснае беларускае мовы адукаваных станаў беларускага грамадзянства, якія ня чураліся свайго роднага слова.

Прывядзем тут выпіску паводлуг сучаснага правапісу з эвангельскага тэксту ў перакладзе Цяпінскага, якраз тое месца, якое замыкае ў сабе прароцтвы аб будучым грозным часе.

«І седча яму на гары Аліўнай прыступілі к няму учавікі наадзіне, мовячы: „рэчы нам: калі тое будзець, і што есьць за знамя твайго прыйсьця й сканчэньня веку?» І адпавядаючы Ісус рэк ім: «Сьцеражыцеся бы ніхто вас ня зьвёў. Многія бо прыйдуць у імяні маём, мовячы: я естом Хрыстос. І многіх зьвядуць. І ўслышаці маеце войны й слухі аб войнах. Сматрыце, не лякайцеся. Патрэба бо ўсяму таму быці. Але не тагды есьць сканчэньне. Паўстане бо народ проціў народу й каралеўства проціў каралеўству, і будуць галады й моры й трасеньні па месцах. Леч усё тое пачатак балесьцям. Тагды пададуць вас у ўтрапеньні й забʼюць вас. І будзеце ненавіджаны ад усіх народаў імені майго дзеля. І тагды згоршаюцца многія й друг друга выдадуць, і ўзьненавідзяць друг друга. І многія лжывыя прарокі паўстануць і зьвядуць многіх. І для рэзмнажэньня беззаконьня, азябнець міласьць многіх, леч выцярпеўшы да канца, тот збавіцца. Будзець бо тагды ўтрапеньне вялікае,

якое ня было ад пачатку сьвету датуль, ані маець быці... Тагды есьлі хто рэчаць вам: „ото се зьдзесь Хрыстос, або он дзе, ня йміце веры. Паўстануць бо лжывыя Хрыстосы і лжывыя прарокі й дадуць знамена вялікія й цуды, іж бы зьвялі, есьлі можна, і выбраныя. Ото ўпярод рэклам вам.»

Сваю працу Цяпінскі прызначаў, як відаць, ня толькі для сэктантаў, але й для праваслаўных, адчуваўшых гэтак сама патрэбу ў кніжкі на роднай мове, а ў тым ліку й для духавенства, якое ў сваёй большасьці было вельмі мала адукавана. Вось чаму ён і не выстаўляе на паказ сваіх пратэстанцкіх поглядаў. Гэта яшчэ вышэй ставіць Цяпінскага, як пісьменьніка і як чалавека, які паважаў усе рэлігіі, чаго нельга сказаць аб іншых сэктантах таго часу.

Каханьне роднага народу й гарачае жаданьне словам і дзелам дапамагчы яго ўмысловаму й маральнаму разьвіцьцю чырвонай устужкай праходзяць праз усю яго працу; у гэтым выпадку Цяпінскі не аддзяляе сябе ад народу, хаця-бы і іншае, чымся ён, рэлігіі. Можна сказаць, што Цяпінскі ў сваіх поглядах пайшоў далей за сваіх папярэднікаў— Скарыну й Буднага: ён шырэй разьвінуў думку аб значэньні беларускае мовы і, змагаючыся за народную асьвету на народнай мове, ён ставіць на чаргу пытаньне аб канечнай патрэбе прабудзіць і падняць у народзе нацыянальную сьвядомасьць.

---

У той час, як Радзівілы закладалі друкарню ў Несьвіжы, у другім кутку Беларусі, у м. Заблудаве, Горадзенскай губ. паявіліся новыя апякуны народнае асьветы—Хадкевічы.

Аляксандар Хадкевіч, закладчык вядомага на Беларусі прасьветнага цэнтру—Супрасьляўскага манастыра (1500 г.), склікае сходы вучоных манахаў, зьбірае старыя кнігі, а сын яго Рыгор закладае ў сябе, у Заблудаве, друкарню, у якой друкуе кнігі царкоўнага зьместу на беларускай мове й дарыць гэтыя кнігі праваслаўным царквам. У 1569 г., якраз у год Берасьцейскай вуніі, была ім выдана «Книга, зовомая Евангеліе учительное». Мэтай гэтага выданьня йзноў было жаданьне дапамагчы справе асьветы простых людзей. У прадмове да гэтай кнігі выдавец выразна заяўляе: «Помыслилъ же былъ есми и се, иже бы сію книгу, выразумѣнія ради простыхъ людей, переложити на просту молву, и имѣлъ есми о томъ попеченіе великое». Пераклад жа быў вельмі патрэбны, бо царкоўна-славянская мова для многіх была незразумелай, аб чым кажацца ў наступных выданьнях гэтага-ж эвангельля. Гэтак, у прадмове да выданьня 1616 г., друкаванага ў Еўе, Віленскай г., гаворыц-

ца: «Зась пре[1]) незнаемость и неумѣетность языка словенского многихъ, многимъ малопотребенъ и непожиточенъ ставится, знову переложеньемъ его на языкъ нашъ простый, рускій, якобы зъ мертвыхъ вскрешонъ... За тымъ тотъ, который тыхъ часовъ хоть въ зацнѣйшомъ, пекнѣйшомъ, звязвѣйшомъ, суптельнѣйшомъ а достаточнѣйшомъ языку словенском, пре неспособность слухачовъ, немногимъ пожиточенъ былъ—теперъ, хоть въ подлѣйшомъ и простѣйшом языку, многимъ, албо рачей и всѣмъ, руского языка якоколвек умѣетнымъ, потребенъ а пожиточенъ быти моглъ... Того ради сію кнігу, яко здавна писаную, велѣлъ есми ее выдруковати, которая кождому не есть закрыта и къ выразумѣнію нетрудна и къ читанію полезна... Вы же, любиміи, пріимите сію книгу съ любовію, а я Божіею помощію о оныхъ книгахъ, церквамъ Божіем потрэбныхъ, промышляти буду и, накладу моего на то наложити не жалуючы вскорѣ ихъ друковати дамъ". Яму гэта лёгка было споўніць, бо ў яго працавалі вядомыя друкары,—прагнаныя з Масквы цёмнымі разьюшанымі масамі—масковец Іван Фёдараў й мсьціславец (Магіл. губ.). Пётр Цімафеяў.—„Къ тому же,—кажа далей выдавец у тэй-жа прадмове,—изобрѣтохъ собѣ въ томъ дѣлѣ друкарскомъ людей научоныхъ: Ивана Феодоровича Москвитина да Петра Тимофеевича Мстиславца. Повелѣлъ есми имъ, учинивши варстатъ друкарскій, и выдруковати сію книгу Евангеліе учительное, первое на почесть и похвалу Господу Богу въ Трсйцы единому, и къ наученію людемъ христіяньскимъ закону нашего греческого». Апошнія радкі вырязна сьведчаць, што гэтае выданьне было прызначана для праваслаўных і жаднага стасунку да пратэстантызму ці сацыніянства ня мела...

Мы ня будземъ даўжэй затрымлівацца на творах і выданьнях царкоўна-навучальнай і рэлігійна-палемічнай літаратуры гэтага старадаўнага пэрыяду беларускага пісьменства. Гэтых твораў ёсьць шмат; у мове адных—беларускі элемэнт праяўляецца мацней, у іншых—слабей, зьліваючыся з агульным характарам тагочаснае паўдзённа-заходняе мовы. І з боку агульна-культурнага, гэтая палемічная літаратура мала мае цікавага. Калі мы зьвярнулі большую ўвагу на Скарыну, Буднага й Цяпінскага, то таму толькі, што памянёныя пісьменьнікі не абмяжоўваліся адным царкоўным жыцьцём: наадварот, яны, побач з рэлігійнымі пытаньнямі, высунулі наперад і пытаньні культурныя, нацыянальныя, а нават і сацыяльныя. Прыгэтым іх праца была выключна ідэёвай, цалкам бескарыснай, у той час, як іх сучасьнікі й блізкія па часу дзеячы ў гэтай галіне царкоўнай палемікі, як Сматрыцкі, Цярлецкі і інш., часта кіраваліся асабістымі

[1]) Праз.

выгадамі, а ў змаганьні са сваімі ворагамі ўжывалі часамі подлых, нялюдзкіх спосабаў: ёсьць, напрыклад, вядома, што зьверская распраіа разьюшанай масы над вуніяцкім арцыбіскупам Іосафатам Кунцэвічам у Вітабску ў 1623 г. была наладжана яго праціўнікам па катадры, праваслаўным арцыбіскупам Мялетай Сматрыцкім. Сам Сматрыцкі, выхаванец езуіцкай калегіі, затым праваслаўны полацкі арцыбіскуп і яры абаронца праваслаўя—ёсьць тыповым прадстаўнікам паўдзённа-заходніх палемістаў гэтага пэрыяду. У 1620 г. ён выдаў сваю «Верификацію или оправданіе невинности», поўную дзікіх напасьцяў проціў езуітаў і вуніі. Праз тры гады, калі быў забіты яго праціўнік Кунцэвіч, і паднялася бура ў варожным яму стане, ён пясьпяшыў схавацца й апынуўся ў Рыме, дзе адрокся перад папаю ад праваслаўя. Вярнуўшыся праз пяць год на Беларусь, ён выпусьціў сваю «Апологію» (1628 г.), у якой праслаўляў вунію й стаяў за злучэньне ўсходняй царквы з Рымам. Выкліканы на сабор у Кіеў, незадоўга да свяёй сьмерці, ён адмовіўся ад гэтых сваіх «заблуканьняў», але пасьля зноў вярнуўся да іх і памёр вуніятам (1633 г.). Падобныя прыклады бязупыннага хістаньня й перамены перакананьняў у пэрыяд гарачых рэлігійных спрэчак здараліся часта.

Не ўдаючыся ў грунтоўны разгляд палемічнай літаратуры, якая, быць можа, дала найбольш твораў у гісторыі старадаўнага пэрыяду, XVI-XVII в.в., і не пералічаючы нават гэтых твораў, мы адсылаем усіх тых, хто цікавіцца падобнай літаратурай да спэцыяльных навуковых працаў, дзе гэтая літаратура разважаецца больш дакладна[1]).

Калі мы знайшлі патрэбным затрымацца ў гэтых першых раздзелах нашага нарысу на некаторых працах нашых старадаўных пісьменьнікаў царкоўнага характару, то зрабілі мы гэта таму, што духоўнае жыцьцё народу, наколькі яно адбіваецца ў пісьменстве таго часу, выяўлялася перш усяго духоўнымі асобамі. Яны паступова апрацоўвалі літаратурную мову на Беларусі; з паміж іх, гэтак сама, падгатаўляліся пісьменныя людзі на розныя грамадзка-дзяржаўныя пасады, дзе яны й далей карысталіся гэтай-жа мовай. І як ня можа гісторык маскоўскай літаратуры замаўчаць аб старых маскоўскіх царкоўных пісьменьніках, гэтак і мы ня маем права забываць старых духоўных пачынальнікаў нашага пісьменства.

[1]) А. С. Архангельскі: „Борьба съ католичествомъ и западно-русская литература конца XVI и первой половины XVII в. Историко-лит. очерки и приложенія къ нимъ". (Надрук. у „Чтеніяхъ въ Обществѣ исторіи и древностей россійскихъ при Москов. Унив." 1888 г. кн. 1).

П. Ўладзіміраў: „Обзоръ ю-р. и з.-р. памятн. письм. XI—XVII ст.". Кіеў 1890 г.

Ф. Карскі: „Къ вопросу о разработкѣ старого з.-р. нарѣчія" у „трудахъ предварит. Комитета IX Археологическ. съѣзда въ Вильнѣ".

## V.

Беларуская кніжная мова ўжывалася ня толькі ў літаратуры царкоўнага характару. Ужо з канца XIV стагодзьдзя яна здабыла сабе пэўнае й пачэснае месца ў мясцовай літаратуры сьвецкага зьместу, якая была ня менш абшырна й багата, чымся царкоўная. У рамкі сьвецкай літаратуры найперш трэба аднесьці некаторыя важныя дзяржаўныя законадаўчыя акты й розныя юрыдычныя дакуманты афіцыяльнага й прыватнага характару; апрача гэтага на Беларусі з даўных давён вяліся свае летапісы на беларускай мове, вельмі блізкай да мовы памянёных помнікаў; аднак больш прывыклі зваць гэтыя летапісы літоўскімі з тае прычыны, што яны перш прыналежалі да Літоўска-Беларускага, а пасьля Літоўска-Польскага гаспадарства.

Мова ўсіх гэтых помнікаў сьвецкае літаратуры была менш зьвязана традыцыямі з царкоўна-славяншчынай, чымся мова твораў царкоўнага пісьменства; дзякуючы гэтаму да не лягчэй прыставалі з аднаго боку—элемэнты жывой народнай беларускай мовы, а з другога боку—польскае мовы. Вось чаму гэтыя помнікі куды больш цікаўны для гісторыі беларускае літаратурнае мовы XIV-XVIII вв. Ужо з канца XVIII в. нашая мова ня мела магчымасьці далей разьвівацца, бо, пасьля падзелу Польшчы, калі Беларусь адышла да Расеі, у нас асталявалася абавязковая агульна-дзяржаўная расейская мова.

Пачынаючы агляд дзіны самых помнікаў беларускае сьвецкае літаратуры азначанага пэрыяду, мы найперш павінны мець на ўвазе афіцыяльныя помнікі агульна-дзяржаўнага характару, якія былі напісаны тагочаснай беларускай кніжнай мовай. Да ліку гэткіх належаць:

1) Статуты й Судзебнікі, г. зн. зборнікі законаў і правоў Польска-Літоўскага гаспадарства, якія захаваліся ў старых рукапісных копіях, а менавіта: а) Вісьліцкі Статут Казіміра III Вялікага, 1347 г.; б) Статут Улыдаслава II Ягайлы, 1423 г.; в) Судзебнік Казіміра IУ, 1468 г.; г) Прывілей яго-ж 2-га травеня 1547 г., даны ўсім станам Жмудзкай зямлі літоўскага й беларускага народу аб зраўнаньні іх у

правох з палякамі ўласнай Польшчы. Гэты прывілей быў пасьля пацьверджаны й пашыраны каралём Аляксандрам у 1492 г., пры ўступленьні яго на трон, і Жыгімонтам I у 1507 і 1569 г. асобнымі граматамі, якія захаваліся ў рукапісах[1]). Сюды-ж адносіцца шмат іншых падобных дакумантаў, дагаворных, устаўных, акружных і інш. грамат літоўска-беларускіх князёў і польскіх каралёў, якія датычаць Беларуска-Літоўскага краю.

2) Літоўскі Статут XVI веку ў трох яго галоўных рэдакцыях: 1529, 1566 і 1588 г.г., які зьмяшчае ў сабе «пісаныя» законы Беларуска-Літоўскага гаспадарства, у апошняй рэдакцыі выданыя гэтак сама ў друку.

3) Літоўская Мэтрыка, г. зн. дзяржаўны архіў Белар.-Літ. гаспадарства, а да яе, апрача гэтага, далучаецца яшчэ вялікая кольказьць папераў і архіўных дакумантаў прыпадковага напоўафіцыяльнага й прыватнага характару, не папаўшых у склад Мэтрыкі.

4) Беларускія летапісы, якія гэтак сама завуцца літоўскімі.

5) Зборнікі й паасобныя рукапісы чыста літаратурнага зьместу, найчасьцей перакладныя.

Пералічаныя тут помнікі гістарычна-бытавога значэньня цявіліся як няўхільны рэзультат гісторыі будаўніцтва Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Да XV сталецьця Літва патрапіла захапіць вялікія абшары суседзкіх беларускіх князьстваў. Літоўскае племя, хаця вельмі моцнае й ваяўнічае, але нядаўна яшчэ (ад 1386 г.) ўвайшоўшае ў сямью народаў хрысьціянскай культуры, не магло ўстаяць проціў больш высокай культуры беларускага племеньня, і ўмыслова й духоўна паддалося яму. Гэткім чынам беларуская мова ў Беларуска-Літоўскім гаспадарстве сталася дзяржаўнаю моваю, г. зн. абавязковаю ў афіцыяльным карыстаньні. Гэтае яе становішча пацьверджана было законам. У Літоўскім Статуце 1588 г., пісаным і друкованым на беларускай мове, у 1-ым артыкуле IV разьдзелу, выразна сказана: «А писаръ земски маетъ поруску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншымъ языкомъ и словы». Яшчэ раней (у 1576 г.) брацлаўская шляхта, хаця й каталіцкая, біла чалом каралю Стафану Баторыю, каб ён загадаў пісаць усе ўрадовыя паперы, заадрасованыя да гэтае шляхты, пабеларуску, а не папольску. Літоўскае панаваньне абнавіла стары й спарахнелы дзяржаўны лад паўдзённай і заходняй Русі, пакідаючы ёй веру, звычаі й мову. Гэтая мова

---

1) Гэтыя граматы ўжо ўваходзяць у склад Літоўскай Мэтрыкі (аб ёй ніжэй) і надрукаваны ў „Актахъ относящихся до ист. Зап. Россіи“, т. I, і ў зборніку Леонтовіча (акт 1507 г. палацінску).

й пасьля злучэньня Белар.-Літоўскага гаспадарства з Польшчаю захавала сваё афіцыяльнае значэньне ў злучаным гаспадарстве й толькі ў канцы XVII в. пачала выпіхацца польскай мовай. Ужываць беларускую мову ў літоўскім судоўніцтве забаронена ў 1697 г. Што-ж датыча законаў, незалежна ад таго, на якой мове яны выкладзены, то шмат артыкулаў Літоўскага Статуту ўтрымалі сваю законную сілу да паловы XIX в., а некаторыя яго нормы й дагэтуль маюць вагу ў народным праве на Беларусі й Літве, ня гледзячы на тое, што яшчэ указам 25 чэрвеня 1840 г. Літоўскі Статут у гэтак званым «Сѣверо-Западномъ краѣ» афіцыяльна быў заменены першаю часткаю X га тому Зборніку Законаў Расейскае дзяржавы.

Супынімся на найбольш важных помніках гэтага аддзелу сьвецкае літаратуры старадаўнага пэрыяду, каб даць да іх тлумачэньні й паказаць узоры іх мовы, хаця-б у невялічкіх кавалках.

*Вісьліцкі Статут*, г. зн. законы, даныя на сойме ў м. Вісьліцы (Клецк. губ., Пінчоўскага пав.) польскім каралём Казімірам III у 1347 г. Гэты статут меў сваім заданьнем дапамагаць дзяржаўным ураднікам, і галоўным чынам судзьдзям, пры выпаўненьні іх абавязкаў; ён празначаўся для паўдзённай, г. зв. Малой Польшчы (Кракоўскай); а для паўночнай, або Вялікай Польшчы, быў даны асобны аналёгічны статут — Пётракоўскі; але ўжо ў 1368 г. абодвы гэтыя статуты былі злучаны ў агульны зборнік. Арыгінал статуту напісаны быў на лацінскай мове, і толькі ў XV сталецьці быў зроблены пераклад яго на польскую й беларускую мовы. З гэтае пары ён уводзіцца ў агульнае ўжываньне ў самой Польшчы, а гэтак сама ў Чырвонай Русі; з часам гэты статут распасьцёрся й на іншыя абшары, якія далучаліся да Польшчы, у тым ліку й на Літоўска-Беларускія, дзе гэтыя законы ўжываліся аж да выданьня Літоўскага Статуту (у XVI в.), аб якім будзе гутарка ніжэй. Мяркуюць, што беларускі пераклад Вісьліцкага Статуту быў зроблены каля 1438 г. Ён зьмяшчаецца ў Супрасьляўскім сьпіску беларускіх летапісаў, якога нам не здарылася бачыць[1]). У вельмі старым рукапісе Вісьліцкага Статуту, які хаваецца (ў копіі) ў музэі графа Румянцава ў Маскве, зьмяшчаецца 138 артыкулаў (у іншых рукапісах лік артыкулаў хістаецца). Самы пачатак ня зусім захаваўся, і многія месцы ў ім сапсуты й нявыразны[2]).

---

1) Гл. арт. акад. А. А. Шахматава ў „Лѣтописи занятій Археогр. Комиссіи“ вып. 13, стр. 8-9, а гэтак сама прадмову да т. XVII „Полн. Собр. русск. лѣтописей“.

2) Гэты статут ёсьць выданы Археографічнай Камісіяй у I томе „Актовъ, относящихся къ исторіи Западной Россіи“. С.П.Б. 1846 г. пад № 2.

У ўводзінах да гэтага статуту паміж іншым вось як тлумачыцца прычына й мэта яго выданьня:

«... мы, Казимиръ, король польскій, съ паны Рады коруны Польское, уложили есмы тыи права. Ачъ подлугъ часовъ розныхъ обычаи и учинки человѣчи измѣнны... А про то жъ мы, Казимиръ, Божіею милостью король Польскій, изъ воли Божіей и з рады пановъ нашихъ, узнали есьмо, ижъ подлугъ часовъ старыхъ въ земли нашей жалобы на судѣхъ не бывали сужены единостайно, але подлугъ розума головного и подлугъ пріятельства, а въ томъ жалобы не бывали искончаны: про то жъ Богу ко хвалѣ и Его Пречистой Матери, а къ ужитку нашимъ подданымъ, штобъ учинить конецъ жалобамъ, выдаваемы и уставляемы права, которые жъ вси у нашей земли маютъ судить и под виною держать». З гэтага відаць, што ў апрацаваньні гэтага статуту прымала ўдзел Каралеўская Рада, зложаная з прадстаўнікоў гаспадарства. Аб тым, што гэты статут быў абавязковы для ўсіх, мы даведваемся з першага яго артыкулу:

«Коли жъ вси уставленые законъ и право чинять всимъ рѣчемъ, то хочемъ, штобы тые права, што есмы уставили на великомъ соймѣ у Вислицы, пріиманы были». Самыя артыкулы статуту разьмешчаны бяз выразнай сыстэмы, прыгэтым некаторыя з іх вылажаны ў выглядзе паасобных здарэньняў дзеля прыкладу, з агульным заключэньнем:

«Миколай жаловалъ на Матѣя, ижъ ему, яко пріятелю, коня позычилъ здорового на дорогу, а коли же ему зася вернулъ, и тотъ конь хромалъ; а реклъ тотъ Матѣй, ижъ ховалъ его, якъ же и своего властного, а не вѣдалъ тоѣ ему хромоты. Тогды мы сказуемъ: Матѣеви того коня 2 недѣли ховать, а будетъ здоровъ за тыи 2 недѣли, ино добро, а не будетъ здоровъ, имѣеть ся пріятельски расправить» (арт. 55). Або другі выпадак: „Идикъ жаловалъ на Фалка, ижъ его потцковалъ собакаю своею, а собака его укусила, а съ того менилъ ся хромъ. Фалко запрелъ, ижъ бы его не потцковалъ, а Идикъ не могъ на него досвѣтчить. Тогды мы присужаемъ: отприсячь Фалкови самому» (арт. 74).

Як бачым, прысяга прызнаецца ядыным спосабам судовага дазнаньня, калі няма выразных довадаў. Гэта сама можна заўважыць і ў шмат іншых артыкулах, асабліва грамадзянскага характару. Напрыклад: „Мартинъ жаловалъ на Микулу: коли оралъ свое поле, тогды упустилъ мошьню, а въ ней 3 скотцы. Микула, сѣючы тое поле, изнашелъ тую мошьню съ тыми грошьми. Мартинъ упоминалъ, абы ему вернулъ, а онъ того ся прелъ[1]). Мы сказуем: Миколѣ самому отприсячь, ижъ не видѣлъ тыхъ грошей, ани мошьни». (арт. 107).

[1]) Адмаўляўся.

Яшчэ прыклад: «Идикъ жаловалъ на пастуха, ижъ далъ ему овцю во статокъ его пасьвити, а опять овцы не имѣлъ зася отъ пастуха; а пастухъ рекъ, ижъ тую овцю пригонилъ до села. Мы сказуемъ: „пастухови присячь, ижъ тую овцю пригонилъ до села“ (арт. 76).

Звычайна за кожны праступак тут жа вызначалася й сама кара ў пэўнай грашовай суме; калі-ж аб гэтым нічога ня кажацца ў вышэй пададзеных прыкладах, то гэта тлумачыцца жаданьнем ухіліцца ад паўтарэньняў, калі справа ясная з папярэдніх артыкулаў. Напр.: «Бартолтъ жаловалъ на Ондрѣя, ижъ его ранилъ, а Ондрѣй вызналъ и реклъ: „у игрѣ ся брало“. Мы, слышавши Ондрѣево признаньне, а знаючи, ижъ въ игрѣ не маѣтъ быти жадная рана, сказуемъ: „заплатити рану“(арт. 102). А вялічыня платы азначана ў артыкуле 100: «Простому» шляхтичу — 10 гривенъ, «учиненему» шляхтичу—15 грыв., «знаменитому» шлахтичу—60 гр., кмету или солтысу, (нешляхтичу) — 3 гр.».

Стасункова мала ёсьць у гэтым статуце артыкулаў агульна - дзяржаўнага значэньня, як напр., арт. 122, аб судзе й грашовай сыстэме, наступнага зьместу:

«А коли жъ подъ однымъ паномъ людъ одно имѣеть, быть а одного права поживать, абы не были, яко Морены и Дивъ, потребно есть, абы аднакы судъ былъ, какъ вь Краковской земли. Коли одинъ государь всихъ есть, тогды одна монета имѣетъ быти..., которая монета имѣетъ быти вѣчна, добрая и годяча, абы была любопріимна всѣмъ людемъ».

Вельмі цікавы ў гэтым афіцыяльным законадаўчым акце ўспамін імён ў мітычных славянскіх істотаў. Марэны й Дзіва, як агульна-вядомых і кожнаму зразумелых у XIV в. Мабыць, вера ў іх была яшчэ моцнай ня толькі ў простага народу, але і ў прасьвячоных людзей таго часу.

Частка артыкулаў датыча крымінальных праступкаў, але куды больш адносіцца да грамадзянскага права: датычаць сям'і, маемасьці, спадчыны, папшчыны і г. д.

Дзеля характарыстыкі старавечнага быту ў гэтым кодэксе можна прымеціць шмат надта цікавых рысаў. На жаль, падаваць тут шмат артыкулаў вялікага абхопу мы ня маем магчымасьці. Вось прыклад, які датыча лясное гаспадаркі й зьяўляецца характэрным для гэткай багатай лясамі краіны, як Беларусь:

«Тежъ уставляемъ: хто съ кимъ имѣетъ границу при лѣсѣ, а войдеть чересъ границу у чюжій лѣсъ, а тотъ его застанетъ..., маеть у него узяти за первое застатое сокиру, а въ другое застанетъ ино ме-

тель[1]), а любо сукно, а въ третіе застанетъ, маеть взяти любо вола, а любо коня, а то безъ вины; а возметь два вола или коня, тогды имѣеть одного собѣ держати, а другого пустить маеть на поруку и маеть знамение учинить на деревѣ, гдѣ тотъ узялъ закладъ. Коли-жъ хто украдеть дубъ или два у чюжомъ гаю, маеть платити 6 скотцъ[2]) за кождый дубъ, а будетъ три, тогды три вердунки[3]) маеть дати тому, чій гай есть, а три гривны вины; а коли только вѣтвь отрубилъ, 4 скотцы маеть платить; а на дубровѣ за дубъ 2 скотцы» (арт. 132 параўн. арт. 83).

Куды даражэй штрафуецца рубка садовых дрэваў, усё роўна ці ў садзе, ці ў полі:

„Хто порубить древо овощное, уставляемъ, ижъ за кожнае древо, овощъ имаючее, будетъ ли зрубано 12 грошей[4]) заплатить за шкоду, а вины 15" (арт. 108).

Шчэпы-ж ацэніваюцца далёка даражэй:

«Коли нѣкоторыи щепы садовы въ огородѣ будутъ щеплены, а будутъ выкоронены, а любо вырваны, маеть зоставить въ огородѣ щепы, а вины 6 грывень на томъ» (арт. 90).

Цікаўны гэтак сама пастановы, якія датычаць бартнярства, г. зн. лясного пчалаводзтва, гэтак характэрнага для Беларусі:

«А хто кому дерево зрубить со пчолами, имѣетъ заплатить гривну тому, чіи пчолы, а другую судови гривну; а хто бортное дерево зрубить безъ пчолъ, то полгривны заплатить, а судови другую полгривны». Сюды-ж адносіцца й выпадак, апісаны ў артыкуле 34-ым: «Петръ Яна на судъ приведе, а реклъ ему той Янъ бчолы покралъ й до своего дому принесъ, а того хотѣлъ на него досвѣтчити. Янъ (запрелся того) и реклъ: своеѐ властное бчолы медъ несъ до своего дому. И судья пыталъ Петра неоднова: могъ ли бы досвѣтчить на него, хто бы видѣлъ? Тогды Петръ отповѣдалъ, ижъ не имѣетъ кимъ досвѣтчить. Тогды маеть Янъ (отприсячь), ижъ свой медъ несъ до дому».

Кармленьне сьвіней жалудамі мела важнае значэньне ў лясным гаспадарстве, а дзеля гэтага артыкул 134 даваў вялікія правы гаспадару дубовага гаю дзеля яго аховы:

«Сказуемъ тежъ: хто коли свиній своихъ у чюжій гай на жолудъ угонить, а тотъ застанеть, чій лѣсъ, имѣетъ одного вепря съ правом забить; а застанеть ли въ другое, имѣетъ двухъ забить: въ третее заста-

---

[1]) Плашч, верхнею вопратку (польск. mętel).

[2]) Скотц—старая польская манэта=$^1/_{24}$ польскай грыўні=33—44 кап.

[3]) Вердунки=$^1/_4$ грыўні.

[4]) Грош таго часу каштаваў на нашы грошы 20 кап.

меть ли, тогды маеть въ обору нашу угонить, а съ нами наполъ подѣлить; а гдѣ коли тыи вепры забьеть, имѣеть тогды знамя на древѣ учинить. А коли супоръ[1]), а любо сутяжей, речеть: нжъ вепры побиты, гдѣ тое знамя есть? тогды тоть (покажа) што тамъ побиты». Калі-ж каму выпадае ганяць сьвіней у свой лес праз чужы, то ён мае права прагону «на 30 локотъ обаполъ дороги, штобы тому вольно гнать», а каб «тотъ панъ, чій лѣсъ», ня меў, «шкоды», то ён сам заўчасу «имѣеть свое жолуды брати, а любо пастьвити» (арт. 135).

Аднэй з характэрных азнакаў старога беларускага быту наогул было «кастарства», г. зн. ігра ў косьці. Але цікаўна тое, што ў Вісьліцкім Статуце гэтае зьявішча разглядаецца ў зьвязку з пытаньнем аб жыдох. Напрыклад, арт. 77, «о игрѣ косточной» кажа:

«Уставляемъ право: коли нѣкоторый сынъ держить отца здорового и матерь здорову, а наиграеть на себе нѣкоторую собину[2]) пѣнезей, тогды отецъ и матка не повинны за него платить тыхъ пѣнезей. А такожъ о жыдѣхъ, ижъ позычають такимъ дѣтемъ, при отцѣ и матери, то позыченіе и згинуло».

Сын, які яшчэ жыве разам з братамі на бацькавіне... «што коли на костках стратить, проиграеть, то имѣтъ быти личено на его дѣльницы. А игръ тѣхъ позычаемъ[3]) для часу скоратанья» (арт. 99). Гэткім чынам ігра прынцыпова не забаранялася, як прыемнае праваджэньне часу. Вінаваціліся толькі ігракі-жулікі, якія даводзяць да ўбогасьці іншых, аб чым перасьцерагае арт. 78:

«Которы частокромъ находятъ на пьяны люди, ведутъ ся къ игрѣ, а берутъ пѣнезю на заклады, а любо нѣгдѣ на оччину, а проигравши, приходятъ во убожество; а такіи (заслужваюць) нашего осуженія подлугъ заслуги. Прото приказуемъ: абы землянинъ нашъ не игралъ зъ жаднымъ такимъ чужаземцомъ, а любо костыремъ, ани на жадныи заклады, ани на поруки, вынявши[4]) готовы пѣнези. А прійдеть ли тотъ...[5]), а иметца ему упоминатися лихими словы, а любо сромотя его, имѣетъ ему платити вину[6]) за его сромоту 15[7]), а нашему суду подобно за непослушенство». Уцягнуўшыся ў ігру, моладзь кідалася пазычаць грошы ў жыдоў, якія бралі вялізныя працэнты й налічвалі працэнты на працэнты. Статут стараецца памеркаваць

---

[1]) праціўнік:
[2]) суму;
[3]) у тлумачэньні: дазваляем;
[4]) за выключэньнем:
[5]) каму прайграў;
[6]) штраф (ня доўг ад ігры);
[7]) мабыць, грошаў;

іх, найперш тым, што не дазваляе даваць грошы йнакш, як пад заклад, не дапушчаючы ніякіх запісаў на веру, якія могуць расьці без канца: «Коли-жъ жидовскій умыслъ и злость ихъ есть на то, какъ бы христіянство обижили, чтобы ни одинъ жидъ у нашей земли нашему христіянству пѣнезей не давалъ на записы, ани на листы, одно на закладъ подлугъ старого обычая» (арт. 138). Падругое, была азначана колькасьць працэнтаў і тэрмін іх выплаты: «Лихва жидовская не имѣетъ нигды насыщенія; про то мы и Рада наша уставляемъ, абы жидове, непріятелеве вѣры христіянское, и (же) на лихву пѣнези даютъ, не имаютъ больш брать на недѣлю, только 10 пѣнезь. Пѣнези даваютъ на записы, а лихвы не даютъ[1]) два годы, што бы ся ихъ лихва множила; а у тыхъ двухъ годѣхъ не упоминаються[2]), ани на судъ ведутъ; а по двухъ годѣхъ уже имъ далей нѣтъ лихвы жадное и ни записомъ имѣютъ поминать, ани тотъ, хто ся имъ записалъ, не имѣетъ имъ записъ полнить» (арт. 82). А апошні артыкул (138), як мы бачылі, нават зусім забараняе ўсякія запісы.

Закон наогул рупіцца, каб падтрымліваць абычайнасьць. І цікава, што, напрыклад, лаянка залічаецца да крымінальных праступкаў:

«Коли шляхтичъ шляхтичу лаетъ до матери, ачъ того не отзоветъ, а любо не доконаетъ, што говорилъ, имѣетъ платить за соромоту, какъ за голову, 60 копъ грошей[3]) (арт. 85).

«Также кто кому матерь лаетъ, а не доконаетъ, а любо не отзоветъ, въ тужъ вину впадаетъ: 60 гривенъ; а коли отзоветъ тогды имѣетъ речи: «солгалъ, яко песъ» (арт. 86).

Вісьліцкі Статут Казіміра III, аб якім толькі што была гутарка, зьяўляецца найбольш поўным судзебнікам старавечнага пэрыяду беларускай гісторыі. Мінула 75 год, і кароль Уладыслаў II Ягельлён Альгердавіч выдаў свой статут у 1423 г.; гэты статут ёсьць вядомы у вельмі няпоўных сьпісках і па свайму характару мала розьніцца ад Вісьліцкага. Дваццаць першых артыкулаў гэтага статуту, якія захаваліся ў рукапісах, гэтак сама найбольш датычаць сямейнага й спадчыннага права й зьяўляюцца часткай дапаўненьнем, а часткай пацьвярджэньнем законаў Казіміра III-га. Гэты статут 1423 г. цяпер ёсьць выданы гэтак сама ў I томе „Актовъ, относящихся къ исторіи Зап. Россіи“, пад № 27. Стыль і мова гэтага статуту бадай-што тыя-ж, што і ў статуце 1347 г. Дзеля гэтага мы ня будзем на ім затрымлівацца.

---

1) той, хто вінен;
2) крэдытары;
3) у іншых сьпісках—грыўен, як і ў наступным артыкуле.

Трэйці азначаны намі юрыдычны помнік, які малюе нам беларускі быт другой половы XV веку, ёсьць вядомы пад назовай: *Судзебнік Казіміра*. Ён быў выданы ў Вільні каралём Казімірам IV, 29 лютага 1468 г., і захаваўся ў некалькіх рукапісных сьпісках XV стацьця, а ў друку выданы ў 1846 г. у тым-жа томе I «Актовъ», выданых Археографічн. Камісіяй, што й Вісьліцкі Статут, які мы коратка ўжо разгледзэлі.

Судзебнік пачынаецца гэтак: «Казимиръ, Божьею милостью король Польскій, великій князь Литовскій и Рускій, княжа Прускоe и Жомойтьскій и иныхъ, чинимъ знаменито симъ нашимъ листомъ, хто на него посмотритъ, или чтучи его услышитъ, ижъ мы, съ князьми и съ паны Радою нашего Великого Князьства Литовского и съ всимъ посполыствомъ погадавши, урядили есмо такъ»...

І далей ідзе выклад самых артыкулаў; тутака найбольш месца ўдзяляецца кражы, над якою праводзіцца гэткі агульны прынцып: «А надъ злодѣемъ милости не надобѣ". Асобна выдзяляецца кара качакрадам, як гэта й цяпер практыкуецца ў звычайным народным судзе: «А который хотя первое укралъ, а коньская тятьба, коня укралъ, а съ лицомъ приведутъ, того узвѣсити»[1]) Знахароў-зельнікаў, схопленых на кражы, пры дазнаньні мучылі, лічачы іх ведзьмарамі, якіх, быццам, бароніць нячыстая сіла:

«А коли тать дасться на муку, а зѣліе зная, а знаки будуть добрыи на него, сок[2]) высочить, а будеть первѣй того крадывалъ, а любо мучиванъ, а и сьвѣдомо то будеть околицы: ино того зѣлейника, хотя не долучатся, ано его обѣсити[1])». Ужываліся і іншыя кары: «А коли чіи паробки украдуть што у кого... коли первое украдетъ, ино его не вѣшати, а заплатити бондою[3]) его; а не будеть бонды, ино осподарь его за него заплатить, а паробка сказнити и пробити[4]); а коли имѣть часто красти послѣ того, а выше полукопы, ино паробка узвѣсити».

Моцна караўся гэтак сама вывад асобаў, якія знаходзіліся пад паншчыкай.

«А который будеть люди выводити, а любо челядь неволную, а ухватять съ лицомъ, того на шибеницю».

Наогул, па свайму характару гэты судзебнік, блізка падыходзіць

---

[1]) павесіць;
[2]) шпег;
[3]) бочка, кадзь (укр.-бодня), дзе хаваецца асабістая маемасьць і харчы, часамі значыць, выслужаная ўласнасьць—зямля.
[4]) паставіць на яго кляймо,—абрэзаную метку (на наздры, вуху).

да Вісьліцкага Статуту, але ён шмат меншы, артыкулы ў ім не панумараваны, і грашовыя штрафы тут маюць меншае значэньне; наадварот, часта ў ім кажацца аб кары сьмерцяй і муках, аб чым няма ўспаміну ў Вісьліцкім Статуце, як законах большай часткай грамадзянскага характару.

Наступным, хаця крыху ранейшым па часу, важным літаратурным помнікам дзяржаўнага значэньня, на якім мы гэтак сама мелі на ўвазе затрымацца, ёсьць прывілей або жалаваная грамата караля Казіміра IV, 1457 г.; гэты прывілей даны беларускаму й жмудзкаму духавенству, дваранству, шляхце, рыцарам, баярам і мяшчанам, як пацьвярджэньне ўсіх перш дараваных ім ад Вітаўта і іншых князёў правоў і як нагарода некаторымі новымі міласьцямі за няўхільна-верную службу. Гэты помнік ёсьць надрукованы паводлуг рукапісу пач. XVI в. ў I томе памянёных «Актовъ», пад № 61.

«Мы, Казимиръ,—кажацца у ўводзінах да гэтага прывілею,—съ Божіей Милости король Полскый и великій князь Литовскый, и Рускый, и Жемоитскый и иныхъ земль, познавше вѣрность уставичную почтивыхъ, достойныхъ, освѣченыхъ, выбраныхъ, мудрыхъ прелатовъ духовныхъ и свѣтьскихъ княжатъ рыцеровъ, шляхтичовъ, бояръ, мѣстичовъ земль великого княжьства Литовского и Руского, Жемоитского, которую нжъ къ намъ и къ нашой парсуне[1]) асьвяченой, какъ жъ то до правого дѣдича[2]) и пана прироженого, имѣли и имають, а тако жъ и на потомъ имѣти уставичне и вѣрне мыслять, яко жъ то чересъ осмотрѣніе наше найдено,—достойне умыслили есмы за такіи доброты и ласки дары и иными ласками имъ милостиве отдарить: бо тогды потомъ къ намъ и къ нашимъ службамъ найдени будуть рыхлѣйши,[3]) коли себе узрять такими ласками утѣшоны».

Вось прычына каралеўскай міласьці, прымусіўшая зраўняць правы беларуска-літоўскіх і польскіх упрывілеёваных станаў. Аб простым народзе ў гэтым выпадку зусім няма гутаркі.

«А про то,—кажацца далей,—не отзывнѣ дали есьмо и моцъю того жъ листа щедре даваемъ, призволяемъ и вѣчне даруемъ посполито овшейки[4]) правя тые, зволенства[5]), твердости[6]), якожъ имають прелаты, княжата, рытери, шляхтичи, бояре, мѣстичи коруны Полское». Тут-жа тлумачыцца патрэба пісоўнага замацаваньня гэтых міласьцяў: «Але бы потомъ въ томъ небыло никоторое отщепение, а любо недовѣрьство возникнуть, тутъ умыслили есмы положити черезъ выкладъ письма явнѣ».

---

[1]) асобе, [2]) уладар, [3]) ахвотнейшы, [4]) усякія, [5]) вольнасьці, [6]) „крэпасные“ акты й запісы на землі.

Бо:—«вси рѣчи, которыи жъ бываютъ, отъ людской памяти поспол[1]) съ часомъ отходять, ани потомъ къ памяти могуть приведены быти, али жъ писмомъ имають потвержены быти». Па свайму зьместу гэты прывілей зьяўляецца зборнікам розных артыкулаў права дзяржаўнага, маентнага, сямейнага, спадчыннага, грамадзянскага й часткай крымінальнага; тут усё прыроўніваецца да правоў і звычаяў „коруны Полское“. Паміж іншым зьвяртае на сябе ўвагу абмежаваньне правоў чужаземцам: кароль урачыста абяцае не даваць ім у карыстаньне земляў і не назначаць іх на ўрадовыя пасады. «Также обѣцюемъ и слюбуемъ, ижъ въ земляхъ тыхъ нашыхъ великого князьства земль, городовъ, мѣсть, а либо которыхъ-кольвекъ дѣдичствъ у володѣніе и въ дерьжаніе, а любо нѣкоторыи вряды, а любо чьти не имаемъ датъ жадному чюжоземцу, але только тымъ родичамъ тыхъ земль нашыхъ предреченыхъ великого князьства Литовского маемъ давати и наши послѣ будущіи дадуть въ дерьжаніе и володѣніе». І наогул, Казімір дае ўрачыстае абяцаньне захаваць у цэласьці землі сваёй дзяржавы й прылажыць усе стараньні, каб іх пашырыць:

«А также обѣцюемъ а слюбуемъ, ижъ панства нашего земль великого князьства предреченого не вменшимъ, але у границахъ, какъ же предки были наши, на имя Князь Александр нареченный Витовтъ, дядя нашъ, и иные держали и володѣли, такожъ и мы тые жъ земли здоровы, границы цѣлы и зуполны держати будемъ, и володѣти и щитити, а съ Божьею помочью и всими силами нашими розширяти будемъ».

Зараз-жа за граматай Казіміра 1457 г. трэба мець на ўвазе гэткую-ж грамату сына, яго наступніка, в. кн. Літоўскага Аляксандра, дануе ў 1492 г.[2]). Гэты новы прывілей зусім асталяваў сілу й палітычнае значэньне беларуска-літоўскай земскай арыстакратыі ў Белар.-Літ. гаспадарстве.

У склад гэтага прывілею цалкам уваходзіць папярэдняя грамата, а ў другой часьці зьмяшчаюцца палітычныя прэрогатывы, якія фактычна пераходзяць ад караля да паноў-радных, абмяжоўваючы гэткім чынам уладу гаспадара. Рада, якая складалася з магнатаў, займае пануючае становішча ў законадаўчых, адміністрацыйных, судовых, грашовых, дыплёматычных і іншых пытаньнях, і гэтакім чынам Белар.-Літ. гаспадарства абярнулася ў арыстакратычную рэспубліку; цяпер вялікі князь стаў звычайным старшынёю рады й ня меў права рабіць ніякіх пастановаў без яе згоды. Гэткім чынам, каралеўскія прывілеі, якія датычаць правоў і абавязкаў польскага шляхэцтва й беларуска-

---

[1]) часта. [2]) Выдана ў зборы —„Zbiór praw litewskich“, 58.

літоўскага баярства, паступова пашыраюць з палітычнага боку магнацкія вольнасьці. Першая гэткая шляхэцкая хартыя, аб якой мы яшчэ не ўспаміналі, была дадзена ў 1387 г.; далейшым разьвіцьцём яе быў азначаны намі прывілей 1457 г., якім шляхэцкія правы былі пашыраны на ўсю шляхту ня толькі літоўскую, але й беларускую, ня гледзячы на розьніцу веры. Найвышэйшым пунктам зраўнаньня палітычных правоў бел.-літ. магнатаў з польскімі зьяўляецца прывілей в. кн. Літоўскага Аляксандра, выданы ў 1492 г. пад уплывам белар.-літоўскіх паноў. Гэты прывілей можа быць празваны magna charta libertatum, і ён бязумоўна стаўся галоўнай падвалінай палітычнае моцы белар.-літ. земскай арыстакратыі. Далейшыя граматы наступных каралёў (Жыгімонта І, 1506 і 1522 г.) ўжо толькі пацьвярджалі старыя шляхэцкія прывілеі аж да самага выданьня Літоўскага Статуту 1588 г. Земская бел.-літ. арыстакратыя паволі дабілася таго, што стала прымаць самы чынны ўдзел у найвышэйшых урадовых пытаньнях, сьпіхнуўшы перад гэтым ранейшую ўладу на месца выканаўчага органу ў асобе караля, або вялікага князя Белар.-Літоўскага[1]).

Усе разгледжаныя намі пісоўныя помнікі старавечнага парадку, як характарам свайго стылю, гэтак і сваёй мовай[2]) надта цікаўны, ня кажучы ўжо аб тым малюнку мінулага народнага быту й грамадзянскіх звычаяў з сацыяльна-палітычнага погляду, які яны гэтак каларова апісваюць. З надворнага боку гэта звычайныя літаратурныя творы, якія чытаюцца з цікавасьцю, і ў якіх адчуваецца жывы народны струмень. Тая простая, падчас наіўная мова, у якой выкладаюцца гэтыя важныя афіцыяльныя дакуманты й дзяржаўныя законы, гэтаж амаль што сучасная нам жывая мова любога беларуса, асабліва з заходніх частак Беларусі, напр. Горадзенскай губ. або Менскага Палесься, дзе й сёньня кажуць «ходилъ», а не „хадзіў“, «естъ», а ня «ёсьць» і г. д. Тут зразумела, ёсьць прыплыў і царкоўна-славянпічаны, як няўхільны скутак тагочаснае царкоўнае адукацыі; але ў грунце ўсё-ткі пераважвае народны беларускі элемэнт, вельмі характэрны й самабытны. Тут былі ўсе задаткі дзеля шырокага й свабоднага разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы, а побач з гэтым і беларускага пісьменства на нацыянальным грунце. На жаль, гэтыя здаровыя, яшчэ неакрэпшыя ўзросткі былі заглушаны й гвалтоўна забіты.

---

[1]) Значэньне й гісторыя пералічаных палітычных актаў польскай і бел.-літоўскай гісторыі выясьнева праф. Ф. І. Леантовічам у яго выведах: „Источники русско-литовск. права“ (Варш. Унив. Изв. 1894. I).

[2]) З боку мовы, яны разглядаліся акад. Карскім у яго кнізе: „Къ исторіи звуковъ и формъ бѣлорусской рѣчи“ Варшава 1893 (гл. ч. II).

## VI.

Усе помнікі юрыдычнае беларускае літаратуры, якія мы разглядалі ў папярэднім разьдзеле, захаваліся ў бадай-што сучасных ім рукапісах. Аднак наступны выдатны помнік, які адносіцца ўжо да XVI в., *Літоўскі Статут*, мы маем у друкованым тагочасным выглядзе, прычым друк яго вельмі падобны да рукапіснага шрыфту й напамінае сабою скорапіс XVI сталецьця.

Старыя нормы народнага й земскага права, якія то пашыраліся, то перайначваліся многімі граматамі, прывілеямі і ухваламі Вялікіх князёў Бел.-Літоўскіх і іх Рады, першы раз былі сабраны ў адно месца па загаду Жыгімонта I на Віленскім Сойме 1522 г.; але канчальна яны былі прызнаны, як зборнік чынных законаў Бел.-Літоўскага гаспадарства, толькі тады, калі ў 1529 г. на каралеўскі пасад сеў Жыгімонт-Аўгуст. Гэта так званы першы, або «стары» Літоўскі Статут. Выданьне першага пісанага зборніка законаў для Беларуска-Літоўскага гаспадарства было гэтулькі важным гістарычным здарэньнем, што літоўскія летапісцы прызналі патрэбным запісаць аб ім у сваіх летапісах вось што: «Того-жъ року (1529) въ Краковѣ корованіе и права писаныя даны всей земли великого князьства Литовского, и Руского и Жемоитцкого на светый Михаилъ отъ короля Жыкгымонта Старого»[1]).

Пры Жыгімоньце-Аўгусьце, пад націскам шляхты, ён быў перагледжаны й прыняты ў новай рэдакцыі ў 1566 г.[2]) з пашырэньнем шляхоцкіх правоў,—гэта другі Статут. Але праз 20 год ён яшчэ раз быў перагледжаны; гэткім чынам склаўся трэці Статут, які быў прыняты на Варшаўскім элекцыйным сойме 1588 г. У гэтым-жа годзе па загаду канцлера Льва Сапегі й пад яго асабістым наглядам трэці Статут быў надрукованы ў беларускай мове ў Вільні ў друкарні Ма-

---

1) Поўны зборнік рус. летапісаў, т. XVII, стр. 350, 406 і інш.

2) Выданы ў „Временникѣ И. Моск. Общ. исторіи и древностей россійскіх“ з перайначаньнямі 1578 г. кн. 17. Масква, 1854.

моцічаў і толькі ў 1616 г. пераложаны на польскую мову, калі беларуская мова на Беларусі пачала пакрыху траціць сваё агульнадзяржаўнае значэньне й выціскацца польскай[1]). З другога боку, ужо ад паловы XVII в. і маскоўскі ўрад пачаў адчуваць патрэбу ў Літоўскім Статуце, асабліва пасьля далучэньня Украіны (1654 г.), дзе тады ўжываўся, а нават падчас і цяпер ужываецца, гэты статут. І вось апрацавалася тады скарочаная маскоўская рэдакцыя; гэтая рэдакцыя ёсьць мала вядомай, бо яна зусім не паявілася ў друку[2]).

Калі-ж пасьля падзелаў Польшчы ў канцы XVIII в. і Беларусь адышла да Расеі, то быў зроблены поўны пераклад Літоўскага Статуту 1588-га году з тагочаснае беларускае мовы на сучасную расейскую мову й надрукаваны ў 1811 г. Аднак пасьля польскага паўстаньня 1830 г. ўжываць Літоўскі Статут на Беларусі было забаронена ў 1840 г.

Калі мы зробім параўнаньне памянёных трох рэдакцыяў Л. Статуту з боку мовы, то лёгка заўважым, што стары рукапісны Статут 1529 г. мае больш вытрыманую беларускую мову, а друкованая рэдакцыя Трэцяга Статуту 1588 г. больш багата полёнізмамі; гэта сьведчыць аб тым, як польская мова паступова пачынала браць верх над беларускай ужо ад канца XVI в., калі польская адукацыя асталявалася ў мясцовых беларускіх школах, і адтуль пачалі выходзіць пісары і ўраднікі з большым нахілам і прывычкай да польскае мовы.

Загаловак Старога Статуту 1529 г. гэткі: «Права писаные Старого Статуту, даные панству великому князьству Литовскому, Рускому, Жомонтскому и иныхъ, черезъ наяснѣйшого пана Жикгимонта, зъ Божее милости короля Польского, в. кн. Литовского, Руского, Пруского, Жомойцкого и иныхъ многихъ“[3]).

Тэрмінам «права писаные» падкрэсьліваецца розьніца гэтага афіцыяльнага закону ад таго народнага няпісанага права, якім дагэтуль старадаўным звычаем кіраваліся на судох, аб чым успамінае у прадмове да 3-га Статуту яго галоўны рэдактар-выдаўца падканцлер Леў Сапега; адначасна гэты тэрмін прыдае азначаным законам абавязковую

---

[1]) Істнаваньне ранейшага польскага перакладу й выданьня вельмі няпэўнае. Гл. адкак С. Ліндэ: „O statucie Litewskim“, Warszawa 1816.

[2]) Адзін з гэткіх рукапісаў выдаў нядаўна І. І. Лаппо у сваёй кнізе: „Литовскій Статутъ въ Московскомъ переводѣ-рэдакціи“. Юр'еў 1916 г. (328-га тому „Лѣтописи занятій И. Археограф. Комиссіи“).

[3]) Статут 1529 г. быў надрукованы найперш у „Временнику И. Моск. Общ. Исторіи и древн. Росс.“ кн. 18. Масква 1854 (з рукапісу XVII в. быўш. Віленск. Акадэміі), калі ня лічыць польскага выданьня Гр. Дзялынскага, які надрукаваў гэты Статут у 1841 г. у Познані польскім шрыфтам у выданьні „Zbiór praw Litewskich od roku 1389 do roku 1529“.

для ўсіх грамадзян моц. На адвароце загалаўку рэдакцыі 1588 г. у арыгінале знаходзіцца патрэт караля Жыгімонта III, пры якім быў выданы Статут 1587 г.[1]).

Кожная з трох рэдакцыяў Статуту дзеліцца на «роздѣлы» (лікам 14, а ў 1-ай рэд.—13); і кожны разьдзел на «артыкулы», колькасьць якіх не аднакова ва ўсіх трох Статутах, бо кожная новая рэдакцыя замыкала ў сабе пэўныя зьмены, найчасьцей дадаткі, а часамі й скарочаньні. Гэткім чынам ужо ў першым артыкуле, 1-га разьдзелу, дзе гаворыцца аб тым, што выданы Статут ёсьць абавязковым для ўсіх грамадзян, «почонши[2]) отъ вышшого стану ажъ до нижшого», у выданьні 1588 г. быў зроблены важны дадатак, які стасаваўся да чужаземцаў: «такъ же чужоземцы загравичники великого князьства Литовъского, приежъдчые и якимъ-кольвекъ обычаемъ прибылые люди тымъ же правомъ мають быть сужоны и на тыхъ врадѣхъ, гдѣ хто выступитъ».

Возьмем яшчэ прыклад з другой галіны: сямейнага права (разьдзел V-ы). У артыкуле 7-ым паводле рэдакцыі 1566 г. сказана: «Гдѣ бы которая дѣвка безъ воли отцовское и матчины пошла замужъ, таковая отпадываеть отъ посагу и отъ имѣнья отчызного и матерыстого[3]), а естли бы одна была у отца, тогды отчизна на близкихъ спадываеть мимо таковую дѣвку». А ў выданьні 1588 г. да гэтага дададзена значнае пашырэньне закону наступнымі словамі: „и тѣжъ мимо дѣтей, потомковъ ее; а гдѣ бы се то трафило, жебы отецъ дочки своее для имѣней ее матерыстыхъ, албо матка для имѣней дочки своее отчызныхъ въ опецѣ своей маючихъ выдати не хотѣли, тогды таковая дочка водлугъ артыкулу девятого сего роздѣлу заховатися можетъ». Гэты 9-ы артыкул разважае падобны-ж выпадак з дзяўчынай-сіратой, якую браты або дзядзькі па тэй-жа прычыне не выдаюць замуж: «тогды однакожъ своволъне не маетъ ни за кого ити, лечъ маетъ дати знати до вряду черезъ кревныхъ, або тежъ и черезъ сусѣдовъ або и черезъ кого-кольвекъ, а врядъ оземшы о томъ певную вѣдомость, же оные близкіе, въ которыхъ опекѣ естъ, замужъ ее выдати не хочутъ, маетъ ей дозволити замужъ пойти, але за шляхтича, а не за простого стану человѣка; а она естли зъ волею вряду, або близъскихъ замужъ пойдетъ за шляхтича, тогды таковая имѣнья не маетъ тратити, а вѣдь-же лѣта дѣвка маетъ мѣти, зуполные трынадъцать лѣтъ;

[1]) Перавыданы у „Временнику И. Моск. Общ. истор. и древн. Росс.» кн. 19. Масква 1854 г. (са сьпіску XVII в.).

[2]) пачаўшы.

[3]) у 1588 г. дададзена: „такъ-же и спадковъ“.

а тотъ, хто ее поймєтъ, волно будетъ ему восполокъ зъ нею доходити маетности жоны своеѣ", і г. д.

Побач з тым, як мяняліся звычаі, сацыяльныя погляды, міжнародныя адносіны,—няўхільна й зусім натуральна павінны былі зьмяняцца адпаведныя артыкулы законаў. Гэтак, напрыклад, стары статут 1529 г. у стасунку да шляхты даваў вялікаму князю літоўскаму значныя правы; а шляхта, дабіваючыся сабе ўсё большых і большых правоў, кожны раз вымагала новых прывілеяў і большай незалежнасьці ад князёўскай улады; з гэтае прычыны прыходзілася рабіць зьмены ў законах, даваць больш падрабязовую рэглямэнтацыю, або выкідаць з законаў тыя, ці іншыя пункты.

Прыкладам скарачаньня артыкулаў у пазьнейшых рэдакцыях можа быць характэрны выпадак, які меў месца ў стасунку да жыдоў і іх становішча на Беларусі. Возьмем адно пытаньне—«о ношеныю (г. зн. аб вопратцы) жидовском». У Статуце 1566 г. (разьдзел XII, арт. 4) яно разглядаецца больш дакладна: «Жидове въ коштовныхъ шатахъ зъ ланцуги золотыми сами и жоны ихъ въ золотѣ и въ серебрѣ, такъ тежъ и сребра на пасахъ и на кордахъ[1]) носити не мають; але уберъ ихъ маетъ быти значный: шапка або биретъ жолтый, такъ тежъ и завиванья бѣлыхъ головъ[2])— полотно жолтое, або тому подобное, ижъ бы знакъ и певное розознанье было христіянина отъ жида».

У апошняй-жа рэдакцыі 1588 г. гэты артыкул (арт. 8 гэтага-ж разьдзелу) скарочаны, але затое дабаўлены іншыя драбніцы: «Жидове зъ ланцухами и съ клейноты золотыми ходити, такъ тежъ серебра на пасехъ, на кордехъ, на шаблях носити не маютъ, вѣдь же однакъ сыгнет[3]) на палцу одинъ и перстень одинъ каждому зъ нихъ мѣти и жидовкамъ перстени, поесъ и уберы водлугъ преможенья[4]) своего носити волно».

Наогул, Статут абмяжоўвае правы тых чужаземцаў і інаверцаў, якія пражывалі ў Беларуска-Літоўскім гаспадарстве. Напрыклад, згодна з артыкулам 9-ым, разьдзелу XIV-га «жидъ, татаринъ и каждый бесурманинъ на врядъ преложонъ[5]) быти и христіянъ въ неволи мѣти не маетъ". Але асаблівая варожасьць прымячаецца ў стасунку да цыганоў: «Ижъ цыгани,—чытаем у арт. 35-ым, XIV разьдзелу,—

---

[1]) корда—шабля;
[2]) жанок;
[3]) пярсьцёнак (з манаграмай, гэрбам і інш);
[4]) дастатку;
[5]) назначаны на ўрад.

—«суть люди непотребные и порожнуючые, которые не толко жадное послуги, пожытку намъ и никому въ Рѣчи Посполитой не чинять, але и овшемъ шкода черезъ нихъ въ ошукиванью простыхъ людей и въ крадежи, а спать и въ забиванью потаемкомъ немалая ся дѣеть, а часомъ, выходечи до иншыхъ земель, звлаща неприятельскихъ, шпеѣгами и вожами до злого могли бы ся ставати: а пре то уставуемъ, абы ихъ конечно отъ того часу нигдѣ въ панствѣ нашомъ великомъ князьстве Литовскомъ и въ земляхъ до него належачыхъ далей не было ховано, чого старостове пограничные и иные державцы нашы мають съ пилностью постерегати, абы до земли нашое не входили; а кгды ихъ который зъ нихъ зъ староства и вряду своего выпудить, абы жаденъ зъ иншыхъ становъ подданыхъ нашыхъ черезъ то ихъ не прыймовалъ и на имѣньяхъ своихъ не переховывалъ подъ виною до скарбу нашого дванадцатма копами грошей».

Да ліку асаблівасьцяў старадаўняга судаўніцтва на Беларусі трэба залічыць гэтак званые «копные» суды. Яны ўзаконены й Літоўскім Статутам. Гэта найчасьцей сялянскія суды. У выпадку, калі здарыцца які-колечы праступак, як напрыклад, забойства або пакража ў вёсцы, сялянам даецца права шукаць праступніка па жывых сьлядох. Дзеля гэтага склікаецца «копа», г. зн. сход сялян з ваколічных вёсак і сёлаў, на мілю навокал, а ў больш важных выпадках—і на дзьве мілі, і гэтая «копа», ня толькі шукае праступніка, але тут-жа яго й судзіць. Былі нават пэўныя й сталыя месцы й пляцы для копных сходаў, якія зваліся «коповішчамі» або «копіскамі», бо яны былі акапаны няўысокім валам, або азначаны капцамі. Гэтыя месцы з часам ужо вызначаліся ўрадовымі актамі, дзе якія з ваколічных сялян і на якую капу павінны зьбірацца; гэта можна заўважыць напр. з актавай кнігі Троцкага суду за 1583 г. (у Віленскім архіве). У якім парадку адбывалася гэтае копнае судаўніцтва, можна аб гэтым даведацца з Літоўскага Статуту 1588 г., напр., з разьдзелу XI, арт. 26 (на выпадак забойства), або з разьдзелу XIV, арт. 9 (на выпадак кражы). Падаем тут першы з гэтых артыкулаў, як меньш абшырны.

«Уставуемъ тежъ, если бы ся то трафило гдѣ жъ кольвекъ забито чоловѣка перехожчого, або безъ племенного, которого головщины искать не будетъ кому, тогды, скоро такого чоловѣка трупъ будетъ знайденъ того жъ часу врядъ замку або двора нашого маеть обослати всихъ мѣщанъ[1]) людей сельскихъ, такъ того подъданыхъ па-

---

[1]) мясцовых жыхароў;

ныхъ, яко и подъданыхъ шляхетскихъ, и опыть[1])вчинити разъ и два; а гдѣ бы се на тыхъ двухъ копахъ о тымъ забитью довѣдати не могли, тогды третюю копу присяжную маеть врядъ собрати, на которой повинны будуть стати вси тые, которые на такой копѣ повинны (се) ставити; а врядъ маеть зъ мѣстечокъ и зъ селъ околичныхъ по три чоловѣка старъшихъ, яко войтовъ, лавниковъ и иныхъ мужовъ добрыхъ вѣры годныхъ до присеги обрати; а тые обраные винны будуть присягнути на томъ, ижъ сами не суть причиною того забитого и о таковомъ забойнѣ не вѣдають; а естли бы которые съ тыхъ копниковъ на присяжной копѣ не стали, або хотя и ставши, присягою отъвести се не хотѣли, тогды таковые будутъ повинни головщину сами платити, а собѣ винного искати; а тая головщина маеть застати при томъ врядѣ, въ которомъ тоть трупъ налѣзенъ; а потомъ, кгдыбы кревные оного забитого вынашли се и свѣдецтво врядовье на повинность кревную за собою мели, тогды маеть тая головщина онымъ кревънымъ отдана быти[2]). А тая копа маеть быти чепена въ околъ по двѣ мили, люди на нее взываючы черезъ возного[3]) оголошеньемъ на торгохъ при костѣлѣхъ, и вездѣ о томъ даючи знать, кому ся трафить; а естли бы черезъ три годы нихто съ повинныхъ до тое головщины не приповѣдалъ ся, тогды врядъ тое головщины половицу маеть при себѣ зоставити, а половицу на шпиталь оддати».—Тут маем выпадак, калі закон у пазьнейшай рэдакцыі разьвіўся ў параўнаньні да ранейшай.

У стасунку да народнага сялянскага жыцьця ў Літоўскім Статуце ёсьць шмат і іншых цікавых артыкулаў. Да гэтага ліку трэба залічыць рад артыкулаў XII-га разьдзелу, дзе трактуецца «о головщинахъ и о навезкахъ людей простыхъ и о такихъ людехъ и челяди, которая отъ пановъ своихъ отходитъ, также и о слугахъ приказныхъ». У пытаньнях аб паншчыне Статут дапушчае некаторыя палёгкі, напрыклад, дзеля слуг і людзей, «которые отъ пановъ своихъ утекають». Калі паводле судзебніку Казіміра IV у XV веку ўцёкі ад пана прыгонных людзей, як мы бачылі, караліся шыбельніцай, то Літоўскі Статут ня толькі дазваляе, пры пэўных умовах, пераходзіць да другога памешчыка, але нават дае права ратавацца ад няволі й паншчыны, шукаючы свабоды ў гарадох. Праўда, памешчыку давалася права шу-

[1]) дазнаньне;

[2]) далейшае дабаўлена ў выд. 1588 г. супроць рэдакцыі 1566 г., дзе гэты артыкул лічыцца 31 арт. таго-ж 11-га разьдзелу;

[3]) возны—паліцэйскі абавязак пры судзе; яго роль выяўляецца з арт. 8-11 і 104, разьдзел 4, Літ Статут

кацъ упёкшага, але толькі ў працягу «земскай даўнасьці», якая азпачалася ў адных выпадках 10 гадамі, а ў другіх выпадках 20 гадамі. Гэтак, напрыклад, артыкул 12, разьдзелу XII-га піша: „Кгды бы который чоловѣкъ отчизный, будь боярынъ панцерный[1]), путный[2]), або тяглый[3]) чоловѣкъ, отчычъ[4]) прироженый, або купленый, выслужоный и яко-кольвекъ набытый, отышодшы отъ пана своего, а заложывшы се за кого недалеко въ пети або шести милехъ, домомъ, а не по наймомъ ходечы мешкалъ, а тотъ бы панъ его, вѣдаючы о немъ, не искалъ его, и давность земскую десеть лѣтъ промолчалъ, тогды вже о того чоловѣка маетъ вѣчне молчать. Пакъ ли жъ бы тотъ чоловѣкъ отчизный отшедши отъ пана своего, и мешкалъ далеко, въ десять, або въ колкодесять миль, а панъ его, о немъ вѣдаючы, а черезъ двадцать годовъ не поискивалъ его, тотъ вже вѣчне о того чоловѣка молчати маеть», і інш.

Але ў адносінах да дворных людзей закон больш срогі: „Челедь дворная, отчызная або полоненая, которая бы отъ пановъ своихъ утекла, противъ тое паномъ ихъ ани далекость мѣстца, ани давность помененая ку отысканью правомъ слушнымъ вадити и перакажати не маетъ противъ самыхъ и дѣтей ихъ» (там-жа).

Цікава, што самы тэрмін „раба“ або «нявольніка» ў адносінах да прыгонных у афіцыяльных справах адкідаецца прадапошнім артыкулам Статуту 1588 г. і замяняецца тэрмінам «челедь дворная, отчызная, матерыстая, купленая, або «полонеников», гледзячы па роду гэтых людзей, «што іх перад тым нявольнікамі звана» (разьдз. XIV, арт. 36).

Як з працягам часу зьмяняецца погляд на гэтых нявольнікаў у Польска-Беларуска-Літоўскім гаспадарстве, аб гэтым сьведчаць адпаведныя артыкулы Літоўскага Статуту ў яго трох галоўных рэдакцыях. У Старым Статуце 1529 г. чытаем (разьдз. XI, арт. 13):

«Неволницы маютъ быти четверакихъ причинъ: первое, которые здавна въ неволи суть або зъ неволныхъ ся родять; другое, которые полоном заведены суть изъ земли непріятелское; третье, коли бы на смерть сказаны кому, окроме злодейства, а оные бы просили того, кому сказаны, жебы ихъ не губилъ, а давали бы ся въ неволю, а онъ бы ихъ не губилъ, таковые въ неволю маютъ даны быти, и дѣти ихъ, которые ся будутъ потомъ родити; четвертые, коли бы ся сами въ неволю поддали въ тотъ обычай, ижъ хтобъ вѣ-

---

[1]) Якія знаходзіўся на вайсковай службе й за гэта карыстаўся поўнымі правамі дваравіна; [2]) які абслужваў шляхавыя двары й станцыі, несучы пачтовую службу; —[3]) які працаваў на полі й дварэ пана; —[4]) які быў на айчыне, бацькаўскім падзеле, прыгонны.

даючы жонку неволную, хотя человѣкъ вольный, ее понялъ, тогды и самъ въ неволю паддастся и дѣти ихъ». Але ўжо ў Статуце 1566 г. адпаведны артыкул (разьдз. XII, арт. 13) прызнае нявольнікаў толькі «трояких причинъ», и пры гэтым, пакідаючы бяззьмены першыя два раней шыя выпадкі, далейшае выкладаецца гэтак: „третіе,—коли бы се сами въ неволю поддали, а хто бы вѣдаючы жонку неволную въ малженство понялъ, хотя человѣкъ волный, тогды таковый самъ и дѣти ихъ въ неволи быти мають. А естьли бы се невѣдоме поняли, а одинъ зъ нихъ, будучы вольнымъ, не хотѣлъ въ томъ быти, тогды того-жъ часу мають се втечи[1]) до права духовного, ведле которого ихъ мають розвести, а по розводѣ таковый вольный маеть зостати вольнымъ, а невольный—невольнымъ». Мінула дванаць з лішкаю год, і Статут на пытаньне—«якіе невольники быти мають,—пастанаўляе: (разьдз. XII, арт. 21): «Невольники внередъ не мають быти зъ иншыхъ причинъ, одно полоненики, а иньшая челядь невольная и тежъ дѣти потомъки полонениковъ мають быти осаживаны на земляхъ и розумены быти за отчичовъ; а татарскіе невольники мають быти осаживаны на ихъ земляхъ».

У стасунку да быту—дык Літоўскі Статут упарадкаваў усе адносіны й зьявы грамадзянскага й сямейнага жыцьця, часамі-аж да падрабязгаў (напр. пэны на сабак розных гатункаў і дамвоых птушак). З дзяржаўнага-ж пагляду гэты, супольны для ўсіх частак і зямель гаспадарства, Статут злучаў і ахоўваў цэласьць і еднасьць дзяржавы

---

[1]) зьвярнуцца.